


Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12+

8 чэрвеня 2018 года №23 (1206)

**Хто ў рэгіёне можа зарабіць больш за 1000 рублёў**



старонка 3



ISSN 1991–7155



# "У 15 год засталася без маці і ледзь не страціла бацьку"

**Ураджэнка Гальшанаў распавяла, чаму зняла фільм аб праблемах у сям'і.**

старонкі 20-21

Фота забяспечанае Алісай КРАСІНСКАЙ.

## Санстанцыя: Беларусі не пагражае радыяцыя з-за лясоў, якія цяпер гараць у Чарнобылі

МАЛАДЗЕЧНА

Пра гэта для "РГ" паведаміла доктар-гігіеніст Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі **Ірына Казакевіч**.

5 чэрвеня ў сродках масавай інфармацыі з'явілася паведамленне аб тым, што ў зоне адчужэння каля Чарнобыля гарыць 10 гектараў "рудога лесу".

Ірына Казакевіч паведаміла, што ў Беларусі на гэтым фоне радыяцыйная абстаноўка застаецца стабільнай.

Метэаўмовы не дазваляюць радыяцыі трапіць на тэрыторыю краіны, таму што гэтыя дні дзьме паўночна-заходні вецер. Ён не садзейнічае пераносу паветраных мас з Украіны на тэрыторыю Беларусі.

Доктар-гігіеніст дадала, што не зарэгістравана перавышэнне ўзроўню магутнасцяў дозы гама-выпраменьвання на тэрыторыі Маладзечна і раёна.

– Радыяцыйны фон застаецца стабільным, – падкрэсліла Казакевіч. – Цэнтр гігіены і эпідэміялогія кожныя дзве гадзіны замярае змяненні радыяцыйнага фону і кантралюе сітуацыю.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Юныя чытальнікі з рэгіёна ўвайшлі ў лік лепшых у вобласці

ВАЛОЖЫН, ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

У Мінскім абласным інстытуце развіцця адукацыі 24 мая адбыўся фінал абласнога этапу рэспубліканскага творчага конкурсу юных чытальнікаў "Жывая класіка: прысвячэнне маёй Радзіме".

Удзельнікі чыталі вершы народных паэтаў Янкі Купалы, Якуба Коласа, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Пімена Панчанкі, Ніла Гілевіча, прозу Васіля Быкава, Кузьмы Чорнага. Сярод лепшых аказаліся пяць прадстаўнікоў рэгіёна. Паміж вучняў пачатковых класаў дыплом другой ступені ў **Аліны Мілеўскай** (Дорскі дзіцячы сад - сярэдняя школа Валожынскага раёна). Дыплом трэцяй ступені атрымала **Ганна Лукша** з Вілейскай гімназіі №2.

Сярод пяці-шасцікласнікаў дыплом другой ступені заваявала **Ангеліна Вятлова** з Маркава. Паміж 7-8 класамі дыплом трэцяй ступені на рахунку вучаніцы Чурлёнскага дзіцячага сада - сярэдняй школы Вілейскага раёна **Надзеі Шарафановіч**. Сярод 9-10 класаў вызначыўся яшчэ адзін вучань Дорскага дзіцячага сада - сярэдняй школы **Ілья Пашкоўскі**. Яму прысудзілі дыплом другой ступені.

Аддзел інфармацыі.

## У некаторых раёнах забаранілі хадзіць у лес

АСТРАВЕЦ, АШМЯНЫ, СМАРГОНЬ

Забарону на наведванне лясоў увялі ў дзевяці раёнах Гродзенскай вобласці ў сувязі з гарачым і сухім надвор'ем. Пра гэта піша БелТА са спасылкай на Гродзенскае дзяржаўнае вытворчае лесагаспадарчае аб'яднанне.

У лясах Ваўкавыскага, Мастоўскага, Шчучынскага, Дзятлаўскага, Іўеўскага, Лідскага, Ашмянскага, Астравецкага і Смаргонскага раёнаў у сувязі з гарачым і сухім надвор'ем усталяваны чацверты клас пажарнай небяспекі. Тут таксама ўведзеная забарона на наведванне лясных масіваў.

У прыватнасці, забаронена заязджаць у лясы на асабістым аўтатранспарце. Таксама не дазваляецца разводзіць вогнішчы, у тым ліку і ў спецыяльна адведзеных для гэтага месцах. Парушальнікам пагражае штраф да 25 базавых велічынь.

Паводле БелТА.

## Маладзечанскі раён выйшаў у лідары па стварэнні працоўных месцаў

МАЛАДЗЕЧНА

Прадпрыемствы працаўладкавалі на новыя працоўныя месцы ў першым квартале 16,3 тысячы чалавек. Гэта амаль на 1130 чалавек больш, чым планавалася.

Раней прэм'ер-міністр **Андрэй Кабякоў** заявіў, што праца па стварэнні новых працоўных месцаў на прадпрыемствах не павінна ператварыцца ў прафанацыю і пагоню за паказчыкамі.

План па новых працоўных месцах правяліла толькі Брэсцкая вобласць – 1280 замест запланаваных 1550. Астатнія рэгіёны перавыканалі. З раёнаў больш за ўсё новых працоўных месцаў у першым квартале стварылі ў Мінскім – 792, Дубровенскім – 391, Барысаўскім – 248, Полацкім – 228, Маладзечанскім – 224, Лідскім – 201.

Паводле tut.by.

# Масавы мор рыбы ў Смаргонскім раёне:

## у раку трапілі адходы крухмальнага завода

**Масавы мор рыбы здарыўся на рацэ Гальшанка, паведамляе Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету.**



Рыба, загінулая ў Гальшанцы. Фота gosinspekciya.gov.by.

Дзяржінспектары Смаргонскай міжраённай інспекцыі сабралі 176 асобін загінулай рыбы на ўчастку ракі Гальшанка паміж вёскамі Нарушэўцы і Дзертнікі. Як мяркуецца, рыба загінула праз адходы крухмальнага завода.

Загінулую рыбу выявілі і значна ніжэй па плыні – прыкладна ў 30 кіламетрах – на тэрыторыі Валожынскага раёна. На трохкіламетровым участку дзяржінспектары Маладзечанскай міжраённай інспекцыі падабралі 140 асобін загінулай рыбы, у тым ліку "чырванакніжнікаў" – адну ручаёвую фарэль і тры ручных міногі.

З пункту гледжання заканадаўства Гальшанка мае высокі ахоўны статус. Яна ўключаная ў пералік водных аб'ектаў, што выкарыстоўваюцца для размнажэння, нагула, зімоўкі і міграцыі рыб сямейства ласасёвых і асятровых. Менавіта таму да якасці вады ў Гальшанцы ўстаноўленыя больш жорсткія патрабаванні, чым для іншых вадаёмаў.

Ацаніць шкоду, што нанеслі рацэ выкіды з прадпрыемства, было б не аб'ектыўна, бо частка загінулай рыбы пайшла на дно, частку знесла плынню. У такіх выпадках прымяняюць іншую методыку: улічваюць плошчу тэрыторыі, на якую негатыўна ўздзейнічалі выкіды, і прамысловы запас рыбы на гэтым участку.

У розных месцах ракі супрацоўнікі лабараторыі аналітычнага кантролю ўзялі пробы вады. Вынікі аналізаў пакажуць ступень забруджання і працягласць участка, які пацярпеў ад выкідаў.

Месяц таму ў кіраўніцтва Гальшанскага крухмальнага завода ўжо была падстава задумацца: 4 мая інспектары Смаргонскай міжраённай інспекцыі аховы навакольнага асяроддзя пачалі працэс супраць юрыдычнай асобы. Тады адходы толькі пачалі працякаць скрозь агароджу. Цяпер ігнараванне пытанняў экалогіі прывяло прадпрыемства да шматтысячных выдаткаў на пакрыццё страт.

Дзяржінспектары аховы жывёльнага і расліннага свету пастаянна працуюць на папярэджанне забруджанняў і прыцягваюць да адказнасці вінаватых. Кіраўнікі ўсіх патэнцыйна небяспечных прадпрыемстваў атрымалі прадпісанні і абавязаныя сачыць за станам агароджаў і ачышчальных збудаванняў.

Кіраўніцтва прадпрыемства з абвінавачаннямі нязгоднае.

Паводле Дзяржінспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.

## Квэсты, конкурсы, вечарыны, выставы – куды можна ўцячы ад шумнага маладзечанскага фестывалю

МАЛАДЗЕЧНА

**Хочаце схавацца ад фестывальнага шуму? Карэспандэнты "Рэгіянальнай газеты" падрыхтавалі агляд мерапрыемстваў, якія ладзяць на Маладзечаншчыне 8 і 9 чэрвеня.**

У гэтыя дні прапануюць мерапрыемствы сельскія Дамы культуры.

**8 чэрвеня**

Заскавіцкі СДК, 11:00 – канцэртная праграма "Лета зорнае"

Красненскі СДК, 11:30 – літаратурна-музычная кампазіцыя "Шануйце жыццё"

Пранчэйкаўскі СДК, 12:00 – гульнёвая праграма "Фотапаляванне"

Беразінскі СДК, 12:00 – спартыўны турнір "Здароваму – усё выдатна"

Лебедзеўскі СДК, 14:00 – выязная канцэртная праграма "Спявай, маё сэрца" ў аг. Лебедзева

Палачанскі СДК, 14:00 – квэст-гульня для дзяцей "Вясёлыя піраты"

Путнікаўскі СКБ, 15:00 – пазнавальная праграма "Каб любіць свой край, трэба яго ведаць"

Відзеўшчынскі СДК, 17:00 – пазнавальная праграма "Дружба моцная, не зламаецца..." да Міжнароднага дня сяброў

Хажоўскі СДК, 18:00 – вечар адпачынку "Нам не сумна ніколі"

Яхімоўшчынскі СК, 19:00 – гульнёвая спартыўная праграма "Самы хуткі"

**9 чэрвеня**

Лебедзеўскі СДК – фотавыстава "Краявіды Лебедзева" ў рамках Года малой радзімы (да 19:06)

Дубраўскі СКБ, 11:00 – канцэртная праграма "Люблю лета"

Аляхновіцкі СДК, 11:00 – маладзёжная акцыя "Стоп! СНІД"

Гарадоцкі СДК, 14:00 – гульнявая забаўляльная праграма "Вясёлыя канікулы"

Радашкавіцкі ЦКіА, 15:00 – спартыўныя спаборніцтвы па настольнаму тэнісу "Лёгкая ракетка"

Хоўхлаўскі СДК, 18:00 – гульнёвая праграма "Добры дзень, іншаземка, або Наша любімая бульба"

Пятроўшчынскі СДК, 19:00 – тэматычная праграма "Светлых пачуццяў палёт"

Палачанскі СДК, 19:00 – танцавальная праграма "Белыя ночы"

Гарадоцкі СДК, 19:00 – вечар адпачынку "Мелодыі кахання"

Пранчэйкаўскі СДК, 19:00 – танцавальная праграма "Ай, будзе крута!"

Хажоўскі СДК, 19:00 – забаўляльная танцавальная праграма "Маладзевая рок-вечарынка"

Яхімоўшчынскі СК, 19:00 – танцавальная праграма "Дыскатэка 80-х"

8 і 9 чэрвеня **Клуб дадатковага развіцця Happy kids world** запрашае на заняткі ў студыі і творчыя майстэрні. У **Доме культуры чыгуначнікаў** будуць працаваць акцёрская, музычная, этна-майстэрні, а таксама цыркавая і танцавальная студыі, запланаваны заняткі па журналістыцы, мантажу і апрацоўцы фота- і відэаматэрыялаў.

У суботу, 9 чэрвеня, у 18:00 **Цэнтралізаваная клубная сістэма Маладзечна** запрашае на танцавальныя вечары адпачынку "Для тых, хто малады душой". Новыя знаёмствы, добры настрой, выдатная атмасфера, а таксама жывая музыка чакаюць вас у Доме культуры чыгуначнікаў.

Аддзел інфармацыі.

# Хто ў рэгіёне зарабляе больш за 1000 рублёў

## Самыя нізка- і высокааплатныя вакансіі – у нашым аглядзе

**Мы паглядзелі, якія прапановы дае Агульнарэспубліканскі банк вакансій Міністэрства працы на 5 чэрвеня.**

### МАЛАДЗЕЧНА

Для Маладзечаншчыны за апошні месяц размешчаныя 532 прапановы.

305 рублёў – самая нізкаапластная і папулярная прапанова. Столькі заплацяць адміністратару сетак бібліятэкі, акампаніятару, артысту тэатра лялек, выхавальніку дзіцячага садка. Выхавальнікаў з такім заробкам патрабуецца 14.

Столькі ж прапануюць медсёстрам, механіку, педагогу-псіхолагу, праграмісту аддзела культуры райвыканкама, сакратару, дворніку, дзяжурнаму атракцыёнаў у парку, кававоду і кавалю ручной коўкі, маляру, цырульніку, повару, швачцы, стаяру.

Каля 350 прапануюць заатэхніку-селекцыянеру, выхавальнікам у некаторых садках, прарабу, дэфектолагу, прадаўцу, шэф-повару каледжа, вадзіцелю ў школе.

380 рублёў заплацяць бухгалтару ў бальніцы, матросу-выратавальніку вадаёма Удранка.

400 прапануюць ветэрынарнаму доктару, неўролагу, дырэктару фітнес-цэнтра, муляру, станочніку дрэваапрацоўчых станкоў.

450 заплацяць рэнтгенолагу, хірургу, інжынеру-механіку, кладаўшчыку, апрацоўшчыку кілбас, слесару па рамонце аўтамабіляў, слесару-сантэхніку.

500 заробіць энергетык, баец жывёлы, жывёлагадоўца, машыніст укладчыка асфальтабетона. 550 прапануюць агенту па закупках, які ведае ўзбекскую мову.

600 заробіць цясляр, электрагазазваршчык і спецыяліст па асемяненні жывёл. 650 атрымаюць галоўны аграном, галоўны энергетык і міліцыянер-кінолаг.

700 прапануюць галоўнаму бухгалтару і грузчыку.

800 рублёў заробіць машыніст бульдозера і экскаватара, 850 – экспедытар. 900 рублёў атрымае галоўны ветдоктар.

Найвышэйшы заробак у 1380 рублёў абяцаюць начальніку цэха водаканала.

### ВІЛЕЙКА

Для Вілейшчыны актуальныя 206 вакансій.

0,25 стаўкі і 76 рублёў атрымаюць музычны і мастацкі кіраўнікі. 0,5 стаўкі і 150 рублёў – для загадчыка клуба, культарганізатара, педагога-псіхолага, кіраўніка гуртка і прыбіральшчыка.

305 рублёў заробіць бухгалтар, выхавальнік летніка, доктар-дыетолаг, лабарант, фотакарэспандэнт, эканаміст, палявод, прадавец, трактарыст. 400 заробіць ветэрынарны фельчар, галоўны інжынер, электраманцёр.

450 рублёў прапануюць егеру, лесніку, медсястры, токару.

Ад 600 рублёў атрымаюць трактарыст-машыніст, загадчык амбулаторыі, заатэхнік. 700 атрымае кіраўнік сельгаспрадпрыемства, міліцыянеры. 800 заробіць інспектар ДПС, правізар-рэцэптар.

900 прапануюць дырэктару сельгаспрадпрыемства, 1020 – начальніку вузла сувязі.

### ВАЛОЖЫН

140 вакансій актуальныя ў Валожынскім раёне.

Паўстаўкі і 155 рублёў прапануюць няньцы. Больш за 300 – загадчыку склада, медсястры, чабану. Вышэй за 400 рублёў атрымаюць свінагадоўца, кіроўцы. 500 заробіць аграном і галоўны бухгалтар, майстар лесу, нарколаг. 600 рублёў атрымае менеджар аддзела збыту.

800 – неўролаг санаторыя, 1000 – аператар па штучным асемяненні жывёл і птушак, 1200 – галоўны ветдоктар і заатэхнік.



Фота Dreamstime.com.

### МЯДЗЕЛ

На Мядзельшчыне 84 вакансіі.

Ад 305 рублёў заробяць псіхіятр-неўролаг, выхавальнік, загадчык аўтаклуба, ахоўнік, харэограф, санітар, пакаёўка.

400 заробяць маркетолаг, кіроўца, наладчык абсталявання, юрысконсульт. 500 атрымае медсястра санаторыя, 600 – трактарыст.

814 рублёў чакае начальніка філіяла малочнага камбіната.

### СМАРГОНЬ

На Смаргоншчыне 127 вакансіі. 0,25 і 0,5 стаўкі прапануюць з заробкам ніжэй за 100 рублёў і крыху вышэй.

305 рублёў – для загадчыка сектара раённага Цэнтра культуры, жывёлавода, кандытара, афіцыянта, уборшчыка. 412 рублёў прапануюць настаўніку. Вышэй за 600 атрымае каштарысны, кіроўца МНС.

800 прапануюць бухгалтару, галоўнаму інжынеру з веданнем англійскай і нямецкай. 995 рублёў прапануюць галоўнаму інжынеру малочнага прадпрыемства.

### АШМЯНЫ

Для ашмянцаў ёсць 193 вакансіі.

305 рублёў – для інкасатара, метадыста аддзела ідэалогіі, повара і вартаўніка.

600 рублёў прапануюць камандзіру аддзялення РАНС, энергетыку, выратавальніку.

1000 рублёў заробіць інжынер і прараб будаўнічай фірмы.

### АСТРАВЕЦ

У Астраўцы за апошні месяц з'явілася 329 вакансій. І тут найбольш прапаноў з заробкам вышэй за 1000 у параўнанні з іншымі гарадамі.

305 рублёў – для дахаўшчыка, паштальёна. 500 рублёў заробіць інжынер і ветэрынарны доктар.

800 – спецыяліст па кадрах.

1000 рублёў прапануюць геадэзісту, інжынеру-механіку, эканамісту. 2000 абяцаюць мантажніку тэхналагічнага абсталявання, 2500 – майстру будаўнічых работ, а 3000 – электразваршчыку ручной зваркі.

Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.

## Наймальнікі павінны паклапаціцца пра свежае паветра для работнікаў

Прыйшло доўгачаканае цяпло, але радуюцца яму не ўсе. Работнікам прамысловых прадпрыемстваў, асабліва работнікам "гарачых" цэхаў, не да задавальнення.

Калі тэмпература на вуліцы большая за +25°С, а на рабочых месцах пачынае перавышаць дапушчальныя гігіенічныя значэнні, для летняга цяпла пачынаеш ставіцца зусім па-іншаму.

Таму наймальнікі павінны паклапаціцца аб стварэнні ў вытворчых памяшканнях належных умоў працы.

Павінна быць забяспечаная бесперабойная эфектыўная работа сістэм вентыляцыі, кандыцыяванне паветра, арганізаваны паветраны душ і рэжымы праветрывання. Трэба ўстанавіць дадатковыя перапынкі для адпачынку ў санітарна-бытавых памяшканнях, дзе тэмпература, вільготнасць і хуткасць руху паветра маюць аптымальныя значэнні.

Работнікаў неабходна забяспечыць спецадзennем з паветрана- і вільгаценепранікальных тканін, матэрыялаў з высокімі адбівальнымі ўласцівасцямі. Неабходна таксама забяспечыць прытрымліванне пітнога рэжыму.

Для работнікаў, што працуюць на адкрытым паветры, трэба рэгламентаваць час працы. У будаўнічай галіне выкарыстоўваюць такую меру, як "разарваны рабочы дзень", калі працуюць у прахалодны ранішні і вячэрні час.

Паважаныя працадаўцы, паклапаціцеся пра здароўе свайго калектыву.

Кацярына ФІЛІПОВІЧ, загадчыца аддзялення гігіены працы Маладзечанскага занальнага Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.

**ЛІЧБА НУМАРА**

**72 317** вакансій размешчана ў Агульнарэспубліканскім банку вакансій на 5 чэрвеня 2018 года.

Паводле Міністэрства працы і сацабароны.

шукаю працу

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 31.05 руб. | 7.06 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2,0225 | **2,0015** |
| Еўра | 2,3442 | **2,3535** |
| Злоты, 10 | 5,4404 | **5,5007** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2331 | **3,2244** |
| Грыўня, 100 | 7,7401 | **7,6525** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ"** | **30.05** | **6.06** |
| Еўра | 2.3220/2.3420 | **2.3390/2.3590** |
| Долар ЗША | 2.0100/2.0270 | **1.9930/2.0100** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 30.05 Цана руб. | 6.06 |
|---|---|---|
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 18,45 | **18,68** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,98 | **2,98** |
| Сасіскі "Малочныя", 1 кг | 6,98 | **6,67** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,10 | **4,10** |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | **5,50** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **12,90** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,20 | **1,20** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Алей "Залатая семачка", 1 л | 3,00 | **3,00** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 4,80 | **5,20** |
| Маянэз, 400 г | 2,15 | **2,15** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя, 1 дз. | 1,50 | **1,50** |
| Агуркі, 1 кг | 1,00 | **0,89** |
| Баклажаны, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Бульба, 1 кг | 1,49 | **1,35** |
| Буракі, 1 кг | 1,70 | **1,65** |
| Капуста, 1 кг | 1,69 | **1,60** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 1,90 | **1,80** |
| Морква, 1 кг | 1,40 | **1,30** |
| Памідоры, 1 кг | 3,29 | **2,69** |
| Перац, 1 кг | 6,50 | **5,50** |
| Радыс, 1 кг | 1,50 | **1,50** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,99 | **0,99** |
| Часнок, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Шампіньёны, 1 кг | 3,50 | **—** |
| Абрыкосы, 1 кг | 5,70 | **3,69** |
| Апельсіны, 1 кг | 2,90 | **4,50** |
| Бананы, 1 кг | 1,99 | **1,99** |
| Вінаград, 1 кг | 5,50 | **4,95** |
| Гранаты, 1 кг | 7,50 | **—** |
| Грушы, 1 кг | 3,30 | **3,69** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,00 | **5,50** |
| Кавун, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **4,50** |
| Клубніцы, 1 кг | 4,00 | **2,50** |
| Лімоны, 1 кг | 4,50 | **4,50** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,70 | **3,99** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,90 | **1,95** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 14,00 | **14,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | **2,50** |

## ДАІ шукае відавочцаў аварыі, што здарылася пад Радашкавічамі ў красавіку

**МАЛАДЗЕЧНА**

17 красавіка каля 11 гадзін вечара 53-гадовы кіроўца аўтамабіля "Форд-Фокус" рухаўся па 44 кіламетры дарогі Мінск-Маладзечна-Нарач у накірунку Маладзечна і наехаў на 45-гадовага пешахода.

Пацярпелы ішоў справа налева адносна аўтамабіля.

Здарэнне адбылося каля Радашкавічаў.

Сведкаў і відавочцаў здарэння просяць звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС па адрасе: **Маладзечна, вуліца Т. Дудко, 1-18** або па тэлефонах: **8 (0176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102.**

Сяргей БАРТОШ,
аддзел ДАІ
Маладзечанскага РАУС.

## Урэзаўся ў дрэва і кінуў на месцы здарэння чатырохгадовага сына

**ВАЛОЖЫН**

ДТЗ адбылося 31 мая каля 23 гадзін у Іванцы, паведамляе УДАІ УУС Мінаблвыканкама.

28-гадовы мясцовы жыхар за рулём "Кія-Сефіі" на закругленні дарогі не справіўся з кіраваннем, аўтамабіль занесла, ён урэзаўся ў дрэва паблізу прысядзібнага ўчастка. У машыне знаходзіўся чатырохгадовы сын кіроўцы. Ён сядзеў на пярэднім сядзенні не ў дзіцячым крэсле і не быў прышпілены рамянём бяспекі.

Пасля ДТЗ кіроўца, пакінуўшы машыну, з месца ДТЗ уцёк, а дзіця забралі сваякі. Хлопчык атрымаў цялесныя пашкоджанні.

"Аўтаамаатара затрымалі каля шасці раніцы на наступны дзень у альтанцы па месцы пражывання. Медыцынскі агляд устанавіў, што мужчына быў нецвярозы (1,66 праміле). Па словах кіроўцы, выпіў ён ужо пасля ДТЗ. Яго версія правяраецца", – паведамілі праваахоўнікі.

У 2016 годзе мужчыну пазбавілі пасведчання кіроўцы за кіраванне ў нецвярозым стане. Папярэдне, магчымай прычынай ДТЗ стала тэхнічная няспраўнасць – закліноўванне задняга кола.

ДАІ нагадвае, што дзяцей неабходна перавозіць толькі з выкарыстаннем спецыяльных крэслаў. Пры перавозцы непаўналетніх дадаткова варта правяраць тэхнічны стан транспартнага сродку.

Паводле УУС
Мінаблвыканкама.



## У магазінах Мядзельшчыны прадавалі спіртное падлеткам

**МЯДЗЕЛ**

Летась на тэрыторыі Мядзельскага раёна супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі пяць фактаў продажу работнікамі аб'ектаў гандлю алкагольных, слабаалкагольных напояў і піва асобам, якія не дасягнулі 18 гадоў.

У спіс трапілі ТАА "Фитосвирь-ТОРГ", магазін "Прадукты" ў Свіры, магазіны "Беларуская хата-2" і "Юбілейны" УП "Крывіцкае РГП" у Мядзеле, "ІП Дзевялтоўскі", "Мясная лаўка" ІП Макарэвіча у Крывічах.

Прадаўцу за прылаўкам варта быць надзвычай пільным. Каб пазбегнуць выпадковага парушэння закона (а дзеці часам выглядаюць вельмі па-даросламу), прадавец мае поўнае права падчас продажу алкаголеўтрымальнай прадукцыі патрабаваць дакумент, які сведчыць асобу. Калі ж у чалавека няма з сабой такіх дакументаў, прадавец можа не прадаваць яму спіртное. Здараецца, што промахі ўсё ж такі здараюцца. Падлетак выглядае дарослым да такой ступені, што ў работніка гандлю нават не ўзнікае ніякіх сумненняў наконт яго ўзросту. Але гэта ні ў якім разе не здымае адказнасці з прадаўца. Максімум, на што можа спадзявацца парушальнік закона, – гэта на штраф у мінімальным грашовым эквіваленце.

Калі вам вядома пра падобныя выпадкі, можаце паведаміць (у тым ліку і ананімна) па тэлефонах: **8 (01797) 50-6-74** – інспекцыя па справах непаўналетніх РАУС, **102** – дзяжурная часць РАУС.

Паводле УУС
Мінаблвыканкама.

# У аварыі на Вілейшчыне загінула дзіця

**ВІЛЕЙКА**

**Аварыя здарылася каля вёскі Жары 3 чэрвеня каля сямі вечара, паведамляе сайт Следчага камітэта.**



Фота sk.gov.by.

На месцы здарэння.

35-гадовая мінчанка кіравала машынай "Форд". З ёй ехалі два сыны: дзесяцігадовы і чатырохгадовы. Кіроўца ехала па дарозе Ушачы-Вілейка ў накірунку Мінска. Каля Жараў жанчына не справілася з кіраваннем, з'ехала ў кювет і стукнулася ў дрэва. У выніку чатырохгадовы хлопчык, які сядзеў на заднім сядзенні ў дзіцячым крэсле, загінуў, а дзесяцігадовага з цяжкімі траўмамі забралі ў бальніцу.

Следчыя з удзелам эксперта і супрацоўнікаў ДАІ правялі агляд месца здарэння, зафіксавалі абстаноўку, канфіскавалі фрагменты і прадметы. Як патлумачыла жанчына ў ходзе апытання, яна страціла кантроль за бяспечным рухам транспартнага сродку, спрабуючы падключыць зарадную прыладу мабільнага тэлефона да прыкурвальніка.

Па выніках першапачатковых следчых дзеянняў Вілейскі раённы аддзел Следчага камітэта распачаў крымінальную справу па факце парушэння правілаў дарожнага руху, якое пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека. З мэтай вызначэння хуткаснага рэжыму, тэхнічнага стану транспартнага сродку і іншых абставінаў прызначылі судова-медыцынскую, аўтатэхнічную экспертызу.

Паводле сайта
Следчага камітэта.

# Пасля трагедыі ў Кемераве праверылі ўстановы Маладзечна

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Нагадаем, праверкі аб'ектаў з масавым знаходжаннем, а таксама наведваннем людзей ініцыяваў Аляксандр Лукашэнка пасля страшнай трагедыі ў Кемераўскай вобласці.**

У пачатку красавіка адбылося здарэнне ў Салігорскай ЦРБ: у шпіталі загарэлася смецце. Дзякуючы правільным дзеянням работнікаў аб'екта і аператыўнасці работнікаў МНС пацярпелых не было. Ратавальнікі і медперсанал эвакуявалі 299 чалавек.

Маніторынгі і праверкі розных аб'ектаў праводзіліся і на тэрыторыі Маладзечанскага раёна. На інтэрактыўнай карце МНС па выніках праверак гандлёвых цэнтраў адзначылі пяць аб'ектаў у раёне. Сёння ў двух з іх ліквідавалі ўсе парушэнні.

Вывучаўся і супрацьпажарны стан установаў аховы здароўя і іншых сацыяльных аб'ектаў. Як адзначаюць спецыялісты, найбольш часта з парушэнняў на дадзеных аб'ектах сустракаецца загрувашчванне шляхоў эвакуацыі, недастатковая колькасць сродкаў пажаратушэння, няспраўнасць сістэм аўтаматыкі, невядзенне службовымі асобамі аб'екта дзеянняў у выпадку пажару і іншых надзвычайных сітуацый.

Па кожным факце парушэнняў у адпаведнасці з заканадаўствам давалася прынцыповая, але аб'ектыўная ацэнка. Пры неабходнасці ўжываліся і прадугледжаныя меры ўздзеяння.

Аднак работнікі МНС адзначаюць, што сённяня мэты прыцягваць каго-небудзь да адказнасці або закрываць аб'екты. Галоўнае, каб былі ліквідаваныя і ў далейшым не мелі месца парушэнні заканадаўства ў галіне пажарнай бяспекі, бо падвяргаць жыццё і здароўе людзей рызыцы ні ў якім разе нельга.

Таму ратавальнікі сумесна з кіраўнікамі органаў улады раёна і аб'ектаў шукаюць усе магчымыя спосабы ліквідацыі парушэнняў і стварэння бяспечных умоў для працы і адпачынку людзей. І самае галоўнае – што гэта атрымліваецца.

Дзякуючы суладнай сумеснай працы і ўзаемаразуменню, сёння можна з поўнай упэўненасцю казаць пра тое, што ні ў работнікаў аб'ектаў, ні ў наведнікаў няма падстаў для турботы: усе аб'екты сацыяльнай сферы будуць працаваць і на іх будзе наведзены належны парадак у галіне бяспекі.

Андрэй РАБЕЦ,
выканальнік абавязкаў
начальніка
Маладзечанскага РАУС.

## На заводзе парашковай металургіі рабочага ўдарыла токам

**МАЛАДЗЕЧНА**

Здарэнне адбылося 4 чэрвеня.

На станцыі "хуткай дапамогі" паведамілі, што пацярпелага шпіталізавалі ў бальніцу.

Начальнік Маладзечанскага аддзела Дэпартамента дзяржінспекцыі працы **Дзяніс Томашаў** патлумачыў, што на заводзе праводзілі работы па дэмантажы трубаў пад столлю. Работніка паднялі ў спецыяльнай люльцы. У 5-6 метрах знаходзілася электраразмеркавальная шафа.

Работнік атрымаў апёкі бока і рукі. На месцы знайшлі абгарэлую адвёртку.

Зоя ХРУЦКАЯ.

## Ноччу ў Вілейцы невядомыя падпалілі тры машыны

**ВІЛЕЙКА**

Раніцай 3 чэрвеня ў Вілейскі РАУС звярнуліся жыхары прыватных дамоў з вуліц Красіна і Лаўрыновіча.

Яны паведамілі, што выйшлі на вуліцу і ўбачылі, што нехта паліў іх машыны. У двух аўтамабілях на Красіна, якія належалі аднаму гаспадару, абгарэлі дзверы. У машыне на Лаўрыновіча – шчотка амывальніка ззаду.

– Машыны стаялі на вуліцы, побач з прыватнымі дварамі, нікому не перашкаджалі, – кажа намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**. – Узбудзілі крымінальную справу.

Аксана ЯРАШОНАК.



Каманда дзіцячай школы мастацтваў на фестывалі "Час жыць!"

# Раскрываць сябе вучыліся маладыя людзі на фестывалі "Час жыць!"

МАЛАДЗЕЧНА

**Фестываль маладзевых ініцыятыў "Час жыць!" прайшоў у Палацы культуры Маладзечна 29 мая.**

У праграме мерапрыемства – семінар-практыкум для спецыялістаў па рабоце з моладдзю, майстар-класы і трэнінгі для самаразвіцця, канцэртная праграма з удзелам маладых музыкантаў, пісьменнікаў, акцёраў, моладзевых творчых калектываў.

Вядучыя з'явіліся на равучых байках, трымаючы ў руках сцягі з эмблемай фестывалю. Вялікую цікавасць выклікае новы арт-праект "Пакінь свой след на белым". Чысты ліст сімвалізуе жыццё чалавека, і кожны з удзельнікаў запоўніў белыя палотны сваім сэнсам. У кагосьці гэта было дрэва жыцця з яркімі далонькамі замест лісця, а ў кагосьці – арэлі, якія нагадваюць узлёты і падзенні.

Для паўнавартаснага жыцця нам неабходныя зносіны. Гэтай тэме быў прысвечаны трэнінг "Экалогія адносін", які правёў член клуба ЮНЕСКА "Планета" **Уладзіслаў Бажко**.

– У аснове майго спіча ляжыць кніга Джона Грэя "Мужчыны з Марса, жанчыны з Венеры", – распавядае Улад. – Заняткі былі праведзеныя для таго, каб паказаць арыенціры пабудовы адносінаў. Я хацеў данесці, што няма ўніверсальнага рэцэпту шчасця, што кожны чалавек вызначае яго для сябе па-свойму.

**Удзельнікі трэнінгу абмяркоўвалі якасці характару мужчын і жанчын, шукалі паміж імі адрозненні і агульныя рысы, вучыліся адрозніваць каханне ад мімалётнай закаханасці.**

– Сапраўдны мужчына гэта той, хто абараняе сваё меркаванне, – выказала сваю думку адна з удзельніц трэнінгу **Анастасія Блакітная**.

"Час жыць!" – мерапрыемства, якое аб'ядноўвае мноства людзей. Людзі прыязджаюць і прыходзяць сюды, каб адчуць душэўную атмасферу. Педагог-арганізатар гімназіі №20 Мінска **Арцём Зайцаў** на фэсце ўжо трэці раз.

– Упершыню я прыехаў яшчэ студэнтам, а цяпер прывёз з сабой 20 школьнікаў, – дзеліцца ўражаннямі Арцём. – Пабывалі на многіх пляцоўках. Тут заўсёды эмоцыі, усё па-сапраўднаму, маштабна, але ў той жа час па-дамашняму. Вельмі падабаецца канцэрт, такі душэўны.

Арцём Зайцаў быў не проста ўдзельнікам. Як псіхолаг ён правёў трэнінг "Шчыра, чыста, эфектыўна: зносіны і абарона ад маніпуляцый".

– У нас ва ўсіх ёсць цела, і ў гэтым ужо ёсць рэсурс, – кажа харэограф **Вікторыя Ігнаценка**, якая праводзіла майстар-клас па аўтэнтычным руху. – Ідэя нашага праекта –дазволіць сабе рухацца так, як хочацца. Я не дапамагаю людзям раскрыцца. Яны самі раскрываюць сябе. Я толькі даю магчымасць і прастору для гэтага. Танец – гэта мадэль самога жыцця, – разважае харэограф.

Шанаваць, разумець і адчуваць, адкрываць нешта новае і дзівіцца таму, што раней здавалася штодзённым. Бачыць свет ва ўсіх яго фарбах і праявах. Усё гэта змаглі ўдзельнікі моладзевага творчага руху з назвай "Час жыць!". Удзельнікі фестывалю казалі пра жыццё на розных мовах творчасці, шукалі адказы на пытанні, як захоўваць чысціню – сэрца, думак, адносін, жыцця.

Ірына СЛІЖЭЎСКАЯ,
школа журналістыкі
"Маладзік".
Фота аўтара.




На свяце ў паліклініцы дзетак весяліў клоўн, і ўсе атрымалі падарункі.

## Дзецям з малазабяспечаных сем'яў падарылі самаробныя цацкі з сэрцайкамі

МАЛАДЗЕЧНА

**Гульнявую праграму "Падорым радасць дзецям", прысвечаную Міжнароднаму дню абароны дзяцей, правялі ў дзіцячай паліклініцы педагогі Маладзечанскага цэнтра творчасці дзяцей і моладзі 1 чэрвеня.**

Разам з вясёлым клоўнам Прыг-Скокам і зусім незласлівай Дзюдзюкай дзеці адправіліся на пошукі канікулаў. Перадолеўшы чароўныя тунэлі, павуцінне і іншыя перашкоды, хлопчыкі і дзяўчынкі не толькі весела бавілі час, але і ўмацавалі сваё здароўе.

Напрыканцы мерапрыемства дзеці з малазабяспечаных сем'яў атрымалі падарункі. Цацкі не звычайныя, а самаробныя, зробленыя ўдзельнікамі раённага дабрачыннага конкурсу "Свет цацкі".

– Мы ўдзячныя ўсім, хто адгукнуўся на нашу прапанову: вучням і педагогам сярэдніх школ №№ 1, 2, 4, 8, 9, 14, гімназій №№3,6, гімназіі-каледжа мастацтваў, Селеўскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад-базавая школа, Радашкавіцкай школы-інтэрната, – кажа метадыст цэнтра творчасці "Маладзік" **Таццяна Рамановіч**.

Мілыя звяркі, лялькі Тыльды, утульныя дэкаратыўныя падушкі і нават драўляны робат – усе цацкі былі выкананыя старанна, з любоўю. Арганізатары конкурсу адзначылі цікавую дэталь – на многія цацкі прымацавалі сэрцайкі. Так удзельнікі спрабавалі перадаць сваё цяпло дзецям, якім яго не хапае.

Прыемна, што ў конкурсе прынялі ўдзел тыя, хто сам мае патрэбу ў дабрачыннай дапамозе. Напрыклад, **Святлана Хадкевіч** і **Мілана Цітова** з Радашкавіцкай школы-інтэрната для дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без апекі бацькоў, вырабілі падушку-сабачку. А дзяўчынка з абмежаванымі магчымасцямі **Віялета Банковіч** зваліла з воўны таксу і назвала яе Джэрыкам. У самой Віялеты шмат цацак, падораных ёй падчас дабрачынных акцый. І цяпер яна з задавальненнем сама выступіла ў ролі валанцёра, які аддае часцінку дабрыні іншым дзецям.

Віялета ўжо чатыры гады займаецца рукадзеллем з педагогам цэнтра творчасці дзяцей і моладзі "Маладзік". Навучэнцы гэтай установы прынялі самы актыўны ўдзел у акцыі міласэрнасці. І не выпадкова, бо тут рэалізуецца інавацыйны праект па фарміраванні маральных каштоўнасцяў сродкамі валанцёрскай дзейнасці.

Ірына СЛІЖЭЎСКАЯ,
школа журналістыкі
"Маладзік".




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб’яву

| | |
|---|---|
| **МАЛАДЗЕЧНА** | Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.** |
| **АСТРАВЕЦ** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.** |
| **АШМЯНЫ** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **75617.** |
| **ВАЛОЖЫН** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **61385.** |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**. |
| **ВІЛЕЙКА** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.** |
| **СМАРГОНЬ** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.** |
| **МЯДЗЕЛ** | вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.** |

* *Аб’явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Опель-Рэкорд па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Рэно-Меган 1997 г. па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Фіят-Брава, 1997 г., 1,6 бензін, у добрым стане. Т. (8-029) 9346176.

• Шкода-Актавія, 2010 г.в., цёмна-шэры, прабег 180 тысяч. Аўтамат. У выдатным стане.16 тысяч рублёў + зімовая гума з дыскамі. Т. (8-029) 5026948.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-025) 9414091.***

• Аўто 0,01 – 3,5 л, 1987-2018 г.в. з любымі праблемамі, для сябе. Дорага. Т. (8-029) 9076073, (8-029) 7459021.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Для Рэно-Кліа 1997 г.в. рухавік, 1,2 бензін, торсіён 58,5, шліцы 27-26. Т. (8-033) 639 1722.

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных паласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 18 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

**ТУРБИНЫ**
*Ремонт в Молодечно*
(8-029) **500-41-57**
**363-13-14**
ИП Згрундо А.М. УНП 692017169

**Сертифицированная станция без выходных СТО**
• Ремонт подвесок, глушителей, тормозных систем, ДВС
• Шиномонтаж, балансировка
• Замена ГБЦ, ремней и цепей ГРМ сцепления, рулевых реек, КПП, масла
• Задние балки французских авто
• Развал-схождение, АРГОН
(8-029) **646-14-63,**
(8-029) **876-51-17,**
(8-033) **669-20-30,**
(8-0176) **58-10-30**.
Адрес: ***г. Молодечно, ул. Т. Дудко, 2*** (рядом с таможней)
ООО «Авто-Мотор-Плюс» УНП 690552830

### ПАСЛУГІ

• Міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю.І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-пагрузчык, міні-экскаватар, траншэкапальнік, вібрапліта 500 кг. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 1790000.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Міні-экскаватар. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772 Т. ()8-029) 6926052.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 2-пакаёвая кватэра альбо абмен на г. Мінск з даплатай. Т. (8-025) 5296374.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, 17/1, 1/5, 1974 г.п., 41 кв. м, 36 тысяч руб. Т. (8-029) 8221212.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Гагарына, д.16, корпус 1, 4 паверх. Т. (8-029) 5581258.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы па вул. Чапаева,74 раён Зеніт. Усе пытанні па тэлефоне. Т. (8-029) 7681486, (8-029) 1576792, Ірына.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Б. Хмяльніцкага, 1996 г., 52,8 кв.м, 5 паверх з 6, 86 000 руб., торг. Т. (8-029) 7540026.

• 2-узроўневы дом у Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

БТПР

Установа “Маладзечанская РАС РДГА “Беларускае таварыства паляўнічых і рыбаловаў” (БТПР) інфармуе, што 18 мая 2018 г. **заканчваецца тэрмін вясновай забароны на лоўлю ўсіх відаў рыбы** ў рыбалоўных угоддзях Брэсцкай і Гомельскай абласцей; **30 мая – Мінскай**, Магілёўскай і Гродзенскай абласцей; 8 чэрвеня – Віцебскай вобласці.

У адпаведнасці з Правіламі вядзення рыбалоўнай гаспадаркі і рыбалоўства **рыбаловам, якія з’яўляюцца членамі РДГА “БТПР”, дадзена перавага** пры ажыццяўленні аматарскага рыбалоўства.

Рыбаловам-членам РДГА “БТПР”, у параўнанні з іншымі грамадзянамі, дазволенае бясплатнае рыбалоўства ў фондзе запасу рыбалоўных угоддзяў, за выключэннем рыбалоўных угоддзяў, пералік якіх зацвярджаецца Мінсельгасхарчам, **наступнымі спосабамі:**

*- лоўля рыбы з прымяненнем прылад аматарскага рыбалоўства з агульнай колькасцю кручкоў да 10 штук на рыбалова (жарліцы, стаўкі, кружкі і інш.);*
*- лоўля рыбы на дарожку з суднаў з рухавікамі;*
*- падводнае паляванне.*

Таксама нагадваем, што рыбаловы, якія парушылі патрабаванні Правілаў, нясуць адміністрацыйную, крымінальную або іншую адказнасць у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам.

Падрабязнасці па тэлефоне (8-0176) **73-63-14**, на сайце **rgooboor.by**, а таксама ва ўстанове “Маладзечанская РАС РДГА “БТПР”, размешчанай па адрасе: ***г. Маладзечна, вул. Афіцэрская, д. 20.*** УНП 691295389

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вольнай на другім паверсе альбо мяняю на Мінск. Т. (8-029) 5086693, (8-0176) 531545.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чкалава. Т. (8-029) 5948745.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, 2/5, еўрарамонт. Т. (8-029) 9496179.

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Дача ў в. Кардон Вілейскага раёна. Знаходзіцца на краі дачнага кааператыва, каля яловага лесу. Ёсць калодзеж, лазня з парылкай. 7 сотак зямлі. Кошт 10 900. Т. (8-029) 2789116, хатні 53096.*

• Дом недабудаваны ў Вілейцы. Т. МТС (8-033) 6294190.*

• Дом у в. Жары Вілейскага раёна альбо на вываз. Т. (8-0176) 533458.*

• Дом у в. Ласі Астравецкага раёна. Можна пад перавоз. Т. (8-044) 7258258.

• Дом у в. Папоўцы Мінскай вобласці. Т. (8-029) 8587518.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Сінькі Смаргонскага раёна. Т. (8-029) 1704380.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Маладзечне пасля пажару, 80 кв.м, участак 0,6. Гараж, хлеў, лазня не пашкоджаныя. Т. (8-029) 7469707, (8-029) 2582660.*

• Дом у Смаргоні па вул. Трактарнай у добрым раёне, 15 сотак з забудовай, гараж, хлеў, водаправод на ўчастку. Цэнтральны газ і каналізацыя праходзяць каля дома. Альбо мяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Смаргоні ці Маладзечне. Т. (8-029) 6601162, (8-029) 6731333 Іван.*

• Дом, 15 км ад Смаргоні. Нядорага. Т. (8-029) 8724272.

ООО «Пуховичимясопродукт»
**снимет в аренду**
помещение
от 20 до 50 кв. м
в г. Сморгонь, г. Вилейка, г. Воложин, г.п. Радошковичи в людных местах.
Тел. (8-029) **691-91-55**
УНП 800017618

**Организация**
**снимет**
3-4-комнатную
квартиру
либо дом
с удобствами
на длительный срок.
Чистоту и порядок гарантируем.
Тел. (8-029) **136-38-32.**
ТПУП «Белпромэкосервис» УНП 190282414

**Продаются квартиры**
в строящемся многоквартирном **9-ти этажном жилом доме**
по г/п № 8А
**в микрорайоне № 6 г. Молодечно.**
Стоимость 1 кв. м - от 660 у.е. по курсу НБ РБ на момент оплаты.
Тел. (8-0176) **70-24-78**
(8-044) **544-44-69**
СУП «ЧистьБау» УНП 600042371

Детский развивающий центр "Совёнок Чесс" Молодечно Ларина, 2а

**ТРЕБУЮТСЯ ПЕДАГОГИ!**

Новый, открывающийся осенью, детский развивающий центр **«Совенок Чесс»** ПРИГЛАШАЕТ
**ПРЕДМЕТНЫХ ПЕДАГОГОВ, ДОШКОЛЬНЫХ ПЕДАГОГОВ, ПЕДАГОГА-АДМИНИСТРАТОРА**

Предполагаемые курсы:
☑ Комплексные развивающие занятия для самых маленьких (от 10 месяцев)
☑ Комплексные развивающие занятия от 2,5 лет
☑ Подготовка к школе
☑ Изостудия
☑ Ментальная арифметика
☑ Скоро-чтение для детей
☑ Английский язык
☑ "Английский вместе с мамой"
☑ Занятия с логопедом
☑ Театральная студия
☑ Танцевальная студия
☑ Вокальная студия
☑ Польский язык
☑ Шахматы
☑ Проведение праздников и Дней Рождения

*Если вы имеете педагогическое образование, опыт работы или без опыта, но с огромным желанием работать – приглашаем! Победуем, встретимся, договоримся. Не тяните до августа!*

8-029-**642-34-64** – Виталий.

• Домік садовы блочны ў кааператыве “Брыльянт”, каля вёскі Ласі, участак, дрэвы, кусты. Нядорага. Т. (8-033) 6407558.*

• Зруб лазні, новы.Т. (8-029) 8595517.

• Паўдома ў Вілейцы, вул. Лаўрыновіча, 5. Т. (8-029) 2852295.*

• Склад-ангар, 200 кв. м, у раёне водаканала г. Маладзечна альбо здам у арэнду. Нядорага. Т. (8-029) 6423464, Віталій.*



# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада. Жывая музыка. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-412, 3 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Агароджы з прафнасціла, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, двухстворкавыя. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. Хутка. Якасна. ІП Бізюк С.І. УНП 191927410. Т. МТС (8-029) 7860317.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

**ОХЛАЖДАЕМСЯ БЕЗ ХЛОПОТ!**
**АНТИФРИЗЫ** готовые и концентраты,
**ТОСОЛ** оптом и в розницу **ДЁШЕВО!**
(8-0176)
**58-12-48**
(8-029)
**63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243

**АККУМУЛЯТОРЫ**
**для автомобилей, источников питания, сигнализаций**
**продаём новые и покупаем старые**
ПРОВЕРКА АККУМУЛЯТОРОВ С ВЫДАЧЕЙ СПРАВКИ И ПРОТОКОЛА ИСПЫТАНИЙ
*Широкий выбор моторных, гидравлических, индустриальных масел, смазки, реагент AdBlue разливной, антифризы, техжидкости, запчасти к иномаркам*
Тел. (0176) **58-12-48**, (029) **63-63-166. www.batrix.by** ООО "Батрикс" УНП 691893243

**Аккумуляторы BOSCH**
а также широкий выбор аккумуляторов других популярных брендов.
(8-0176)
**58-12-48**,
(8-029)
**63-63-166**
www.batrix.by
ООО «Батрикс» УНП 691893243
**Принимаем старые АКБ**
СТАРЫЙ НА НОВЫЙ

МІЖНАРОДНАЕ СУПРАЦОЎНІЦТВА: БЕЛАРУСЬ – ГЕРМАНІЯ

**Як на розных мовах будзе "Ручка"**

АНГЛІЙСКАЯ
PEN

ІТАЛЬЯНСКАЯ
PENNA

ІСПАНСКАЯ
PLUMA

ШВЕДСКАЯ
PENNA

НЯМЕЦКАЯ
KUGELSCHREIBER!

**Як на розных мовах будзе "Навука"**

АНГЛІЙСКАЯ
SCIENCE

ІТАЛЬЯНСКАЯ
SCIENZA

ФРАНЦУЗСКАЯ
SCIENCE

ІСПАНСКАЯ
CIENCIA

НЯМЕЦКАЯ
NATURWISSENSCHAFT!

# Пяць прычын вывучыць нямецкую мову

**Калі вам падаецца, што вучыць замежную мову неабавязкова, а аддаваць час на вучобу шкада, мы падрыхтавалі спецыяльна для вас спіс аргументаў "за".**

### 1. Распаўсюджанасць

Нямецкая мова вельмі распаўсюджаная ў Еўропе. Па-нямецку размаўляюць у Швейцарыі, Люксембургу, Аўстрыі і Ліхтэнштэйне. Нямецкая зразумелая вялікай частцы жыхароў Польшчы, Бельгіі, Нідэрландаў, Даніі, Чэхіі і Румыніі, паўночнай Італіі і ўсходняй Францыі.

Многія выбіраюць менавіта нямецкую, калі ўжо вывучылі англійскую. Для такіх студэнтаў вучоба будзе яшчэ больш паспяховай. На Зямлі каля 120 мільёнаў носьбітаў нямецкай, таму гэта перспектыўныя веды.

### 2. Перспектывы ў працы

Нямецкая эканоміка надзвычай перспектыўная. Менавіта Германія – эканамічны цэнтр Еўрасаюза. Прадукцыя канкурэнтаздольная і карыстаецца попытам. Ва ўсім свеце вядомая нямецкая якасць і дакладнасць, таму менавіта немцы – выгадныя і надзейныя партнёры ў бізнесе.

Лепшыя работнікі, канешне, валодаюць англійскай. Вырвацца наперад і пакінуць канкурэнтаў ззаду можна, калі станеш вышэй за норму. Няхай нямецкая стане козырам у барацьбе з канкурэнтамі.

Акрамя таго, у Германіі хуткае і моцнае развіццё навукі. Нямецкія навукоўцы вядомыя ва ўсім свеце. Іх адкрыцці станавіліся часткай сусветнага прагрэсу стагоддзі таму, не саступаюць свае пазіцыі і сёння. 22 Нобелеўскія прэміі па фізіцы, 30 па хіміі, 25 па медыцыне атрымалі з нямецкагаворачых краін, многія з гэтага пераліку вучыліся ў нямецкіх інстытутах.

Прадпрыемствы Германіі выкарыстоўваюць найноўшыя тэхналогіі, дакладнасць і прадукцыйнасць якіх яшчэ ўчора падавалася фантастыкай. Сёння ж гэта праца на карысць, якая дае асалоду і бліскучы прыбытак.

Дзве трэці сусветных, міжнародных кірмашоў ладзяць менавіта ў Германіі. Краіна з'яўляецца сусветным лідарам у машынабудаўніцтве.

### 3. Немцы любяць падарожнічаць

І грошай на гэта яны не шкадуюць. Акрамя таго, адпачынак у немцаў больш, чым у беларусаў, і выбіраюцца яны ў паездкі звычайна двойчы на год, разбіваючы асалоду на дзве часткі.

Таму працуючы ў сферы турызму ці падчас адпачынку, вы часта будзеце сутыкацца з нямецкай мовай. А валоданне ёй дапаможа ці наладзіць бізнес, ці прыемна бавіць час, размаўляючы з суседам.

### 4. Веды

Валодаючы нямецкай, вы будзеце мець шырокія магчымасці для навучання. Вельмі шмат профільных сайтаў, дзе можна адшукаць практычныя парады па самых розных спецыяльнасцях, вядзецца менавіта па-нямецку.

Адну з дзесяці кніг у свеце друкуюць у Германіі.

Зразумела, што нямецкімі аўтарамі назапашаныя стагоддзямі цудоўнейшыя творы. Як філосафы і паэты, так і навукоўцы, архітэктары, хімікі, фізікі і медыкі атрымаюць непараўнальную асалоду ад чытання перлін спецыялізаванай літаратуры ў арыгінале.

Яшчэ Германія прапануе для абмену студэнтамі шырокія магчымасці, якімі могуць карыстацца школьнікі, студэнты. Падтрымлівае даследчыкаў і студэнтаў, якія вырашылі весці акадэмічную дзейнасць у гэтай краіне.

### 5. Нямецкая мова не такая і складаная

Тым, што вывучыць нямецкую цяжка, напужаў Марк Твэн, які так і не асіліў яе. У сваім нарысе "Аб жахлівай складанасці нямецкая мовы" ён у адчаі напісаў: "Калі ўжо нямецкі пісьменнік нырне ў фразу, дык вы не ўбачыце яго да таго часу, пакуль не вынырне на другім баку свайго Атлантычнага акіяна з дзеясловам у роце".

Самая галоўная перашкода для многіх – страх, што будзе вельмі цяжка. У нямецкай мове няма складаных замарочак з напісаннем, мова фанетычная, як беларуская. Гэта значыць – як чуем, так і пішам.

Англійская, французская, нямецкая мовы паходзяць ад германскай прамовы, таму ўсе яны вельмі блізкія. Асіліць нямецкую можа кожны. Галоўнае – знайсці, для чаго вы хочаце яе вывучыць.

**Эмілія ХВОЯ.**
**Фота adme.ru.**

# На свята дзяцінства прыйшло больш за тысячу чалавек



Танец з табурэткамі гледачы віталі авацыямі.

ВІЛЕЙКА

**1 чэрвеня, пачынаючы прыкладна ад трох гадзін дня, у аўтобусах, што ходзяць па маршруце №3, было не прапхнуцца. Моладзь і дзятва з бацькамі ехалі на свята дзяцінства.**

– Скажыце, а дзе выходзіць, каб трапіць у мікрараён Паўночны-2, – пытаемся ў кандуктаркі.

– А вы на свята? Ну, дык выйдзіце там, дзе будуць выходзіць усе, – адказвае тая.

### Раздавалі квас за папяровы бранзалет

Святочную пляцоўку ўбачылі здалёк. Над вялікай абгароджанай тэрыторыяй луналі паветраныя шары, мыльныя бурбалкі, музыка і дзіцячы смех.

Свята адкрыла намеснік старшыні Вілейскага райвыканкама **Святлана Дзяруга**.

– Цудоўна, што свята дзяцінства і сям'і горад ладзіць у новым маладым мікрараёне, дзе шмат дзяцей. Хай іх становіцца яшчэ больш, – пажадала Святлана Міхайлаўна і падарыла вялікі кошык шакаладу маленькім артыстам.

А дзяцей пачало станавіцца больш, якраз ад 1 чэрвеня. На свяце ўганаравалі віляйчаніна **Яўгена Супрановіча.** У святочны дзень у сем гадзін раніцы ён стаў татам. У сям'і Супрановічаў нарадзіўся другі хлопчык. Гаспадыня аднаго з дзіцячых магазінаў у Вілейцы **Алёна Сячко** ўручыла Яўгену сертыфікат на пакупкі.

Тым, хто набыў папяровыя бранзалеты за 50 капеек, раздавалі квас і печыва. Пры гэтым стаць у чаргу некаторыя паспявалі некалькі разоў.

Таму не дзіўна, што за першыя паўгадзіны свята народ выпіў 50 літраў – увесь запас квасу. У астатні час раздавалі напоі з бутэлек. Да кожнай шклянкі дадавалі печыва.

А хто вядзе здаровы лад жыцця, мог бясплатна папіць вады ад Цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Доктар цэнтра **Ягор Горбач** праводзіў віктарыну, конкурс на надзіманне паветраных шароў, прапанаваў памераць ціск.

### "Нават і не думалі, што ў Вілейцы столькі дзяцей"

Танцавалі і спявалі дзіцячыя калектывы Вілейкі, артысты з дзіцячых садкоў горада.

Дзятве дазвалялі пасядзець у спецыяльнай лодцы выратавальнікаў на вадзе і ў міліцэйскай машыне. Тут можна было ўключыць сігналізацыю і крыкнуць на ўсю пляцоўку ў мікрафон, што знаходзіцца ў машыне.

У рамках свята зладзілі конкурс блізнятаў "Падобныя непадобнасці". Удзельнічала дзевяць пар. Самыя малодшыя – шасцігадовыя **Саша** і **Маша Курдэкі**, самыя старэйшыя **Соф'я і Руслана Аўласовічы**. Блізняты спявалі, танцавалі, ігралі на музычных інструментах. **Арсень** і **Алесь Дзядко** вызначыліся тым, што прадстаўлялі сябе па-беларуску. Хлопчыкі распавялі, што ходзяць у касцёл, у басейн, на футбол, дапамагаюць бацькам даглядаць малодшую сястрычку. Перамаглі ў конкурсе блізнят сёстры Курдэкі. Дзяўчынкі ходзяць у вілейскі дзіцячы садок №7, любяць спяваць і танцаваць.

Бліжэй да вечара свята працягнулі байкеры і пенная вечарынка.

Па словах арганізатараў, на святочныя мерапрыемствы ў Паўночны-2 прыйшло больш за тысячу наведнікаў.

– Нават і не думалі, што ў Вілейцы столькі дзяцей, – дзяліліся ўражаннямі госці свята.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Блізняты Арсень і Алесь Дзядко выступалі па-беларуску.



Паветраных шароў было шмат.

## Дзённік мамы першакласніцы: адчуваем смак першых летніх канікулаў



**– Ці недарма ты хадзіла ў першы клас? – спытала я ў Варвары ў апошнія дні навучальнага года.**

– Ну, чытаць я і так умела. І лічбы ведала, і знакі "больш" і "менш". Але і ў школе шмат чаму навучылася: пісаць пісьмовымі літарамі, плаваць, танцаваць, прыклады рашаць. Даведалася, што ў дэцыметры дзесяць сантыметраў, – адказала першакласніца.

Ва ўрачыстай абстаноўцы, з танцамі і песнямі першы клас развітаўся з Букваром. Дзяўчынкі нашага класа ў гламурных чорна-бліскучых касцюмчыках танцавалі танец котак, а хлопчыкі ў камбінезонах колеру "металік" паказалі танец робатаў.

**А яшчэ Варвара вельмі рада, што па колькасці грамат, атрыманых на выпускным свяце, абскакала старэйшую сястру.**

У Юлі ж толькі дзве: за выдатную вучобу і за ўдзел у конкурсе па інфарматыцы. А ў Варвары цэлых пяць: і за цікавасць да школьнага жыцця, і за актыўнасць, і за тое, што прынесла пластыкавыя бутэлькі і макулатуру, і за трэцяе месца ў алімпіядзе "Хачу ўсё ведаць". І за заканчэнне першага класа. Але такія ўсім давалі.

Першакласнікам далі спіс літаратуры на лета. Варвара кажа, што ўжо трэба пачынаць чытаць. У спісе рускія народныя казкі, вершы Агніі Барто, апавяданні Льва Талстога. Сказала, што абавязкова будзе займацца матэматыкай і пісаць патроху сказаў у сшытак. А раптам за лета ўсё забудзецца, і тады не возьмуць у другі клас. Хвалюецца.

**Хваляванні і ад таго, што 1 верасня яна можа не пазнаць сваю лепшую сяброўку Дашу. Вырастуць жа за лета.**

31 мая для першых класаў была лінейка. На ёй адкрылі "Алею першакласнікаў". За некалькі дзён да лінейкі кожны першы клас, а іх шэсць, разам з бацькамі і настаўніцай пасадзіў тую.

– Хай гэтыя дрэўцы сімвалізуюць ваша сталенне і поспехі, растуць разам з вамі, – звярнулася да першакласнікаў дырэктар школы **Каліна Капуцкая**.

Дзеці паабяцалі на працягу 11 гадоў даглядаць свае дрэўцы.

Вядома ж, тую садзілі не ўсе 30 чалавек. Выбралі, здаецца, чатырох з класа. Вара ў іх лік не трапіла. Таму ўсё сумавала, быццам бы яна на тую мае менш правоў, чым тыя чатыры шчаслівыя.

Цяпер Варвара адчувае смак першых летніх канікулаў. Чакае паездкі на мора. А пакуль са старэйшай сястрой ганяе ў вёсцы на трактары.

Вось і ўсё. У вераснёўскіх нумарах чакайце "Дзённік мамы другакласніцы".

**Аксана ЯРАШОНАК.**




Варвара з кавалкам гістарычнай стужачкі ля "Алеі першакласнікаў".

## Расіянін набыў у беларускай кнігарні зборнік маладзечанкі і запрасіў яе ў свой праект

МАЛАДЗЕЧНА

**Аднойчы пецярбуржац Глеб Пудаў, кандыдат навук па мастацтвазнаўстве і перакладчык з нямецкай мовы, зайшоў у кнігарню ў Оршы. На вочы трапілася кніга маладзечанкі Марыі Бельскай.**

Пагартаў тонкі паэтычны зборнік "Таямніца", уразіўся вершамі аўтаркі з Маладзечна, а асабліва паэмай, прысвечанай Мядзельшчыне. Кнігі іншых аўтараў так не зачапілі. Глеб звязаўся з Марыяй праз фэйсбук і прапанаваў паўдзельнічаць у праекце.

### Як можна не выказаць любоў да Беларусі?

Праект уяўляе сабой выданне вялікай кнігі пра Беларусь. Дарожныя нататкі Глеба будуць папярэднічаць перакладам вершаў сучасных беларускіх паэтаў на рускую мову.

У дарожных нататках аўтар паспрабуе перадаць свае ўражанні ад наведвання Беларусі, даць суб'ектыўную ацэнку таму, што адбываецца ў краіне. А пераклады зоймуць найбольшую частку.

> – Я вельмі люблю беларускую мову. Яна самадастатковая. Гэта мова цудоўна падыходзіць для цвёрдых паэтычных формаў – санетаў, трыялетаў, – кажа Глеб. – Лёгкасць перакладу з беларускай мовы на рускую і наадварот вельмі падманлівая. Лічу, што беларуская мова вартая таго, каб яе папулярызаваць.

Адкуль у расіяніна такая любоў і зацікаўленасць да Беларусі? Упершыню Глеб трапіў сюды год 12-14 таму. Кажа, спадабалася фантастычная прырода і добрыя шчырыя людзі – беларусы. З тых часоў Глеб прыязджае ў Беларусь тры-чатыры разы на год.

– Ведаеце, калі вечарам прыбываеце на цягніку "Санкт-Пецярбург – Гродна", кідаеце рэчы ў гасцініцы "Нёман" і бяжыце на аднайменную раку, адкуль адкрываецца прыгожы далягляд, то раптам згадваеш нешта з радкоў Рыгора Барадуліна. Як можна пасля гэтага не выказаць сваю любоў да Беларусі, напрыклад, у выглядзе кніжкі? – дзеліцца эмоцыямі Глеб.

### У літаратуры не чужы

Да таго ж Глеб заўсёды захапляўся літаратурай, сам піша вершы. Яго пераклады з беларускай мовы на рускую публікаваліся ў літаратурных часопісах Беларусі і на беларускіх сайтах, а пераклады з беларускай мовы на нямецкую з'яўляліся на старонках выданняў у Германіі.

Ні адзін прыезд Глеба ў Беларусь не абыходзіцца без паходаў у кнігарні. Прызнаецца, што заўсёды праглядае паліцы з паэзіяй. Так адкрыў некаторых беларускіх паэтаў. Кагосьці знайшоў праз інтэрнэт, кагосьці – парэкамендавалі. Сабралася 40-50 аўтараў. Аднак Глеб не выключае, што да моманту выдання іх стане больш.

### Распавесці расіянам пра Беларусь

Выдаць кнігу Глеб Пудаў плануе сёлета ў сябе на радзіме за ўласныя сродкі. Чакае прадмовы ад аднаго вядомага беларускага крытыка.

– Лічу, што кніга будзе цікавай, у першую чаргу, расіянам, – дзеліцца Глеб. – Многія з іх дрэнна ведаюць культуру, у прыватнасці, літаратуру. Хочацца адкрыць Беларусь для сваіх суайчыннікаў. Магчыма, у кагосьці складзецца ўражанне, што чалавек, які бывае ў Беларусі наездамі, не мае права пісаць пра яе нататкі. У сваё апраўданне магу сказаць, што я ўвесь час сачу за навінамі з Беларусі, чытаю кнігі пра яе гісторыю і культуру. Мне гэта цікава. Лічу, што менавіта пераклады вершаў змогуць больш распавесці пра вашу краіну. А мае дарожныя нататкі стануць своеасаблівым уступам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Сабраліся на беразе возера, якога няма

## Як прайшла сёлетняя сустрэча землякоў у Будзішчы


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Госця з Ваўкавыска Валянціна Яцуковіч з землякамі разглядае старыя здымкі.

ВІЛЕЙКА

**Выхадцы з Будзішча і сённяшнія яго жыхары па традыцыі сабраліся 26 мая ў сваёй вёсцы. Былі ўспаміны, музыка, гульні, пачастунак. Не было толькі возера, якое большасць памятае з дзяцінства.**

– Мы так любілі наша возера, – падзялілася стараста вёскі **Наталля Дуровіч**. – Раней сюды нават з Ільі купацца прыязджалі. А сёлета бабры нарабілі вакол возера нораў і так пашкодзілі дамбу, што возера проста вылілася. Вяскоўцы рыбу збіралі.

### Старшыня паабяцаў уратаваць возера

На сустрэчы прысутнічаў старшыня Ільянскага сельвыканкама **Аляксандр Мікуцкі**. Ён павіншаваў будзеўцаў са святам вёскі і паабяцаў абавязкова ўратаваць іх возера. Працы ўжо пачаліся. Па словах Наталлі, вяскоўцы вельмі ўдзячныя старшыні за яго дзейснасць і неабыякавасць.

Хоць пакупацца на сёлетняй сустрэчы не атрымалася, было шмат іншых прыемных момантаў. Адзін з іх – успаміны.

– Хто хоча пабачыць сваіх бацькоў маладымі? – пытаецца ўраджэнка Будзішча **Ванда Дэканец** і дастае з торбы альбомы са старымі фотаздымкамі.

Ля яе адразу збіраюцца людзі. Хто знаходзіць сябе дзіцем, хто пазнае суседзяў і сваякоў. І дружна здзіўляюцца таму, якія ўсе маладыя і якія ўсе худыя.

### Як на кожныя танцы фарбавалі туфлі

**Валянціна Яцуковіч** на сустрэчу да сваіх землякоў прыехала ўпершыню. Яна была самай далёкай госцяй – дабіралася аж з Ваўкавыска. Не так даўно пайшла на пенсію – з'явіўся час для такіх сустрэч. Карэспандэнту "Рэгіянальнай газеты" Валянціна коратка распавяла гісторыю сваёй сям'і:

– Мой бацька **Пётр** быў з суседняй вёскі Крыніцы. Добра маляваў. Маладым хлопцам паехаў у Ленінград, паступіў у мастацкае вучылішча. Там пазнаёміўся з мамай – ураджэнкай Наўгародскай вобласці. Яна была домработніцай у генерала. Мастацкае вучылішча бацька не скончыў. З мамай шмат ездзілі: жылі і на Каўказе, і ва Узбекістане. Я нарадзілася ў Крыніцы, калі мама з татам гасцявалі ў яго бацькоў. Тата часта ўспамінаў, што мой пуп закапаны ў бабулі на кухні. Там тады земляная падлога была.

Назусім Валянціна з бацькамі і сёстрамі пераехала ў Будзішча з Узбекістана школьніцай. Пайшла ў чацверты клас суднікоўскай школы. Прыгадала, як з сяброўкамі спатрэбіліся бацькавы алейныя фарбы:

– У Будзішчы бацька не маляваў. А фарбы розных колераў валяліся ў цюбіках без патрэбы. Калі мы з сяброўкамі пачалі хадзіць на танцы, гэтымі фарбамі размалёўвалі сабе туфлі. Адзін раз на танцы ў зялёных ідзём, другі – у чырвоныя пафарбуем.

### Збіраліся ў Будзішчы, бо тут не жылі настаўнікі

Да дзевяці вечара, па словах Валянціны і яе аднавяскоўцаў, дзеці працавалі разам з бацькамі. Пасля – ішлі гуляць. Любілі валейбол. А яшчэ была дзіўная гульня – у навакольным лесе абломваць галінкі на дрэвах на ўзроўні выцягнутай рукі. У радыусе на некалькі кіламетраў ад Будзішча ці не ўсе галінкі былі абламаныя.

У 1970-я моладзь з навакольных Кавалёў, Бараў, Суднікоў, Гараваткі збіралася ў Будзішчы "на пасядзелкі".


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

"Якія ўсе маладыя!"

– Чаму ішлі менавіта да нас? Таму што вёска найпрыгажэйшая, а яшчэ таму, што настаўнікі тут не жылі. І была нам поўная свабода, – кажа Ванда Дэканец.

Як распавяла Наталля Дуровіч, ладзіць сустрэчы землякоў вырашылі некалькі год таму. Здаўна ў вёсцы быў фэст 22 мая – на Міколу. Ад традыцыі вырашылі не адступаць: збіраюцца або на свята, калі тое прыпадае на суботу, або ў наступныя выхадныя пасля яго.

Сёлета пачастунак і жывую музыку ад Ільянскага СДК разнасцілі конкурсамі, гульнёй у валейбол. Дзякуючы вiктарыне прыгадалі, як на востраве каля Пахомава знайшлі напалеонаўскі скарб у вялікім катле і хто быў у 1970-х дырэктарам школы у Суднiках.

На наступны год плануюць сабрацца на тым самым месцы. Але з возерам.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# “Велізарная страта для ўсіх, хто цэніць свабоду, праўду і справядлівасць”

## Памерламу на мінулым тыдні Арсеню Лісу прысвячае ўспаміны яго сябра Сымон Барыс

СМАРГОНЬ

**Не стала Арсеня Ліса. Гэта вялікая страта для беларускай культуры. Ён як ніхто іншы дбаў пра нашу спадчыну і вельмі перажываў за сучасны абыякавы стан беларускай мовы.**

28 мая ў Беларускай філармоніі быў канцэрт аматарскага танцавальнага ансамбля “Крыжачок”, які існуе ў складзе БДУ.

Калі вярнуўся з канцэрта, хацеў патэлефанаваць свайму земляку і распавесці пра канцэрт і паскардзіцца, што там за паўтары гадзіны на сцэне не прагучала аніводнага беларускага слова.

**А канцэрт закончылі 25 танцораў у марской форме пад назвай “Одесская кадриль”, “Море встречает”. Ды яшчэ з сімволікай БДУ. Няўжо рэктарату не сорамна. А нехта з рэктарата на рускай мове нават хваліў мастацкага кіраўніка ансамбля. Сапраўды, канцэрт быў някепскі. Але нічога беларускага там не было, апрача касцюмаў і танца “Кругавая”.**

Вечарам вырашыў не трывожыць Арсеня. Патэлефаную заўтра. Раніцай падумаў, што трэба абавязкова перагаварыць з Арсенем і расказаць пра незвычайны сон, але ўсё чамусьці адкладваў. А 11-й гадзіне мне патэлефанавала **Марына Ліс**, жонка Арсеня, і сказала: “Арсеня ўжо няма”. Давялося ёй расказаць пра сон у гэту ноч.

“Ідзём па беразе Нарачанкі па бруднай дарозе. Я і Арсень з нейкім мужчынам, які сюды аднекуль прыехаў. Арсень мне кажа, што ён памятнік-камень паклаў у гонар кнігі “Нарачанка і яе берагі”. Помніка я не бачу. Арсень з тым мужыком пайшлі у лес у бок Кузьмішак і Гануты, а я завярнуў у сваю вёску Касічы. І я вырашыў не шукаць той помнік, можа, ён і пажартаваў. Калі той помнік ляжыць, дык нікуды ён не дзенецца. Хай ляжыць”.

### “А пазнаёміў нас Рыгор Шырма”

Сапраўды, Ліс пакінуў помнік для гэтай кнігі. Ён з **Міхасём Чарняўскім** былі яе рэцэнзентамі. Не думаў я, што мне сёння давядзецца пісаць пра Арсеня Ліса, майго земляка, якога я ведаю, напэўна, з сярэдзіны 1960-х гадоў.

А пазнаёміў нас вядомы народны артыст СССР **Рыгор Раманавіч Шырма**. Так атрымалася, што я ў 1962 годзе стаў карэспандэнтам Шырмы, калі служыў у Ноўгарадзе і вучыўся на вячэрнім аддзяленні педагагічнага інстытута. Шырма рэкамендаваў мяне ў аспірантуру па спецыяльнасці беларуская фалькларыстыка. Я папрасіў напісаць рэкамендацыю. І ў адказ пачуў:

– Я там у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук не працую, а таму пісаць не буду. А ты ідзі туды, знайдзі Арсеня Ліса і скажы яму, што я прыслаў і прапаную цябе ў аспірантуру. І гэтага хопіць. Калі спатрэбіцца пацвярджэнне, то яны са мной звяжуцца і я скажу, што трэба. Як адбылося знаёмства з Арсенем, ужо не памятаю. Але я яго знайшоў.

### “Завочна вучыцца – што есці па тэлевізары”

Улетку 1969 года я наведаў Ліса ў інстытуце. Канкрэтна мы не дамовіліся, толькі на будучыню паспадзяваліся. Аднак, калі вярнуўся ў Ноўгарад, даведаўся, што рэдакцыю газеты “За рулём”, дзе я працую, закрываюць. Тэлефаную Лісу і кажу: “Хачу сёлета паступіць у аспірантуру”. І чую адказ: “І на стацыянар, і нават на завочнае ўжо сёлета набралі. А калі ў цябе так з работай, то прыязджай у Беларусь і тут будзем разам думаць”. У той час дырэктарам гэтага акадэмічнага інстытута быў **Пятро Глебка**. Я напісаў рэферат аб песнях, запісаных мной у вёсках Нарачанскага краю.




Ліс і І. Цішчанка з магнітафонам каля Гудагая ў 1970 годзе.

У той год Арсень Ліс жыў у інтэрнаце Акадэміі навук, па вуліцы Сурганава, а я настаўнічаў у школе Мінскага раёна. У канцы снежня 1969 года ў выхадны дзень я прыехаў з вёскі да Ліса і зайшоў ў яго пакой, у якім ён жыў адзін. Тут я не раз заставаўся начаваць. На гэты раз ён мне кажа: “Сямён, я цябе віншую. Ты ўжо аспірант. Залічылі цябе на завочнае адзяленне”. Напэўна, я прамаўчаў. “А чаму ты не радуешся?!” – пытаецца ён. “А чаго тут радавацца? Завочна вучыцца, што есці па тэлевізары. Або завочна есці”, – адказаў я.

### Дзяліўся з Лісам досведам сямейнага жыцця

У 1970 годзе, улетку, я разам з групай фалькларыстаў паехаў у экспедыцыю збіраць беларускі фальклор. Першая экспедыцыя была на Мядзельшчыну, Пастаўшчыну. На другое лета мы ездзілі на Астравеччыну, Ашмяншчыну. Арсень Ліс быў яшчэ дзецюком і паводзіў сябе вельмі сціпла. Адначасова ён вучыў мяне, як стаць фалькларыстам. Хоць мы і сябравалі, але ні разу не выпівалі

Трапіў я і яшчэ адзін раз у навуковую экспедыцыю на Віцебшчыну. Тады ў Верхнядзвінскім раёне я з Арсенем начавалі ў вёсцы Дзёрнавічы, у гумне. А ён тады збіраўся ўжо ажаніцца і сваю будучую жонку Марыну пакінуў адну ў нядаўна атрыманай кватэры. Хваляваўся, што яна там можа адна баяцца. Тады ж мабільнікаў не было, каб перагаварыць. Хоць яна была за яго маладзейшай на гадоў з дзесяць, але

**Арсень як жаніх быў прыгожы і прывабны, вучоны і кандыдат філалагічных навук.**

Арсень вучыўся ў мяне сямейнаму досведу, а я ў яго – даследчай рабоце. Аб нашых сумесных вандроўках Арсень нават успомніў пра мяне ў нарысе “Даўнія песні Надзвіння”, што змешчаныя ў кнізе “Gloria victis!” (старонка 667), якую мне падарыў і падпісаў: “Сябру-земляку Сымону Барысу з пажаданнем рэалізаваць свае неардынарныя творчыя задумы, усяго памыслага ў асабістым жыцці. Арсень Ліс. 30.11.2012” .

Арсень Ліс разам з Міхасём Чарняўскім і **Анатолем Валахановічам** рэкамендавалі мяне ў члены Саюза беларускіх пісьменнікаў у 2008 годзе. Ён жа разам з Міхасём Чарняўскім былі рэцэнзентамі кнігі С. В. Барыса і **А. В. Рогача** “Нарачанка і яе берагі”. Арсень згадзіўся стаць рэцэнзентам і наступнай нашай кнігі “Нарачанскі край”.

**Сымон БАРЫС.**

**Даведка “РГ”.** Арсень Сяргеевіч Ліс нарадзіўся 4 лютага 1934 года ў Вётхаве (сёння Смаргонскі раён). Працаваў у Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Даследаваў традыцыйную культуру беларусаў, літаратуру, гісторыю і перыядычны друк Заходняй Беларусі, жыццё і дзейнасць дзеячаў беларускага нацыянальна-вызваленчага руху, гісторыю культуры. Аўтар шэрагу манаграфій па літаратуры, мастацтве, фальклоры. Памёр 28 мая 2018 года. Пахавалі майго земляка 31 мая на могілках у Залессі Смаргонскага раёна.

● КАЛЯНДАР

9 ЧЭРВЕНЯ

**150 гадоў** з дня нараджэння **Уладзіслава Вярыгі** (1868 – 1916), філосафа, этнографа, збіральніка беларускага фальклору.

**105 гадоў** з дня нараджэння **Тамары Міянсаравай** (1913 – 1990), беларускай піяністкі, заслужанай артысткі Беларусі.

10 ЧЭРВЕНЯ

**295 гадоў** з дня нараджэння **Францішка Папроцкага** (1723 – 1805 -?), выдаўца, перакладчыка, гісторыка, аўтара навуковых прац пра Вялікае Княства Літоўскае. Родам з Беларусі. Вучыўся ў Полацкай, Слуцкай, Нясвіжскай і Гродзенскай езуіцкіх калегіях. Выкладаў у Варшаве, Вільні, доктар філасофіі. Прадоўжыў выданне віленскіх “Палітычных каляндарыкаў”, дзе друкаваў звесткі па гісторыі, астраноміі, геаграфіі і фізіцы. Ад 1760 года ўзначаліў віленскую акадэмічную друкарню, у якой выдаваў і рэдагаваў першы на тэрыторыі Літвы і Беларусі інфармацыйны штотыднёвік “Літоўскі кур'ер” са штомесячным дадаткам “Літаратурныя весткі”, дзе змяшчалася шмат матэрыялаў з Беларусі.

**1883.** 135 гадоў з дня нараджэння **Язэпа Гапановіча**, беларускага грамадскага дзеяча, прадпрымальніка. Нарадзіўся ў мястэчку Будслаў. Дзеяч беларускай кааперацыі на Віленшчыне. Быў уласнікам цагельні. Заснавальнік і старшыня Асветнага таварыства беларусаў у Варшаве, аплачваў памяшканне таварыства. Дапамагаў незаможным беларускім студэнтам. Выдаў зборнік вершаў Станіслава Станкевіча “З майго ваконца”. Памёр 20 мая 1961 года.

13 ЧЭРВЕНЯ

**1834.** Нарадзіўся **Канстанцін Вераніцын,** літаратар, верагодны аўтар паэмы “Тарас на Парнасе”. Памёр у Пецярбургу ў 1904 годзе (?).

**1943.** 75 гадоў таму ў вёсцы Васілішкі (цяпер Шчучынскі раён) польскімі падпольшчыкамі забіты **Юльян Саковіч,** дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху, актывіст Таварыства беларускай школы і Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, Беларускай народнай самапомачы, Сябар ЦК Беларускай незалежніцкай партыі. Нарадзіўся 24 жніўня 1906 года ў фальварку Баўдыры Ашмянскага павета Віленскай губерні.

14 ЧЭРВЕНЯ

**1900.** Нарадзіўся **Міхась Забэйда-Суміцкі,** беларускі спявак, педагог. Памёр 21 снежня 1981 годзе ў Празе.

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# “У 15 год засталася без маці і ледзь

## Ураджэнка Гальшанаў распавяла пра сям’ю, працу ў кіно

АШМЯНЫ

**Калі будучыя рэжысёры выбіралі тэмы для навучальных фільмаў, ураджэнка Гальшанаў вырашыла зняць кароткаметражку аб праблемах у сям’і. Чаму? Бо 15-гадовай дзяўчынай адчула, што такое застацца без маці і ледзь не страціць бацьку.**



“Вось каб можна было і ў жыцці адкруціць кадр назад”. Аліса Красінская на здымках фільма “Казановы”.

Аліса Красінская сёння працуе асістэнтам рэжысёра ў паспяховай кампаніі. Вучыцца завочна на другім курсе Беларускай акадэміі мастацтваў, мае любімую працу.

Карані дзяўчыны з нашага рэгіёна. Яна нарадзілася ў Гальшанах, але жыла там нядоўга. У хуткім часе пасля нараджэння дачкі бацькі пераехалі ў Мінск.

### Памятаю старажытны замак і стронгу ў Гальшанцы

Аднак Аліса ўпэўнена: менавіта гэты куток адыграў у яе жыцці найважнейшую ролю, натхніў, захапіў маляўнічай прыродай і старажытнай архітэктурай, падштурхнуў да творчасці. Бо ў Гальшанах дзяўчына напісала сваё першае апавяданне і песню. Сёння па магчымасці Аліса бывае ў Гальшанах. Кажа, шмат дзе бывала, ёсць з чым параўноўваць. Але найлепшы адпачынак – на родным беразе.

– У Гальшанах увесь час бывала ў бабулі і дзядулі на канікулах. – З гэтымі мясцінамі звязаны самыя яркія ўспаміны: вялікі ўчастак, бабулін сад, рэшткі старажытнага замка, манастыр, азёры, дзе плавае стронга, рака Гальшанка, сваякі, сябры, аднавяскоўцы, школа, збудаваная дзядулем.

### Пра дзядулю, які абараніў доктарскую на пенсіі

Аказваецца, у 1963 годзе дзядуля Алісы **Міхаіл Крот** ініцыяваў будаўніцтва сярэдняй школы ў Гальшанах.

– У дзядулі ўсё атрымалася, хоць ён не быў у партыі і ніколі не гнаўся за кар’ерай. Дзякуючы яго ініцыятыве ў Гальшанах пабудавалі школу, якая не саступала гарадской. У 1960-х гэта школа адзначалася на Выставе дасягненняў народнай гаспадаркі (ВДНГ) у Маскве. Дзядуля дабудаваў на тэрыторыі стадыён, жылы комплекс для настаўнікаў. У хуткім часе з’явіўся новы дзіцячы садок, паліклініка.

Аліса лічыць, што яе дзядуля выратаваў мястэчка ад вымірання. Бо па плане пасля вайны ў Гальшанах хацелі пабудаваць невялічкую аднапавярховую школу. Мясцовыя жыхары і цяпер жартуюць, што школа для Гальшанаў стала градаўтваральным прадпрыемствам.

Міхаіл Крот нарадзіўся ў 1924 годзе. Быў настаўнікам рускай мовы і літаратуры, меў вышэйшую адукацыю. ВНУ скончыў адразу пасля Другой сусветнай, удзельнічаў у кампаніі па ліквідацыі непісьменнасці. У Гальшаны прыехаў працаваць. Тут ажаніўся з настаўніцай беларускай мовы і літаратуры **Палінай Адамаўнай**. У іх нарадзіліся два сыны: бацька Алісы, **Аляксандр**, і дзядзька, **Анатоль**. Пасля дарослыя сыны паехалі вучыцца ў Мінск, там і засталіся.

А Міхаіл Сцяпанавіч тым часам выйшаў на пенсію і... падаўся за дзецьмі ў сталіцу. За час працы ў школе ў яго назбіралася шмат навуковых публікацый па літаратуры і краязнаўстве. Са сваімі даследаваннямі настаўнік абараніў кандыдацкую дысертацыю па літаратуры, потым доктарскую. Уладкаваўся працаваць у Інстытут адукацыі, складаў навучальныя праграмы для школ. Працаваў у інстытуце да 80 год. Да гэтага часу яго сын, бацька Алісы, ужо скончыў інстытут радыёфізікі БДУ “на выдатна” і ў 31 год абараніў доктарскую.

### “Так хацелася апынуцца па той бок экрана!”

Сама Аліса тры гады таму скончыла з залатым медалём адну са сталічных школ. Заслужаны медаль уручалі ў тэатры юнага гледача:

– Вось тады я дакладна вырашыла: іду ў творчасць, – прыгадвае Аліса. – Тым больш, я скончыла музычную школу, займалася вакалам і фартэпіяна, мела досвед публікацый і выступленняў. Я заўсёды любіла прыдумваць гісторыі, нешта заўважаць у жыцці. З часоў свядомага дзяцінства ў сваіх фантазіях бачыла сцэны, падзеі, персанажаў. А калі глядзела любімыя фільмы і мульцікі, так хацелася апынуцца па той бок экрана!

Праз год пасля школы Аліса паступае ў Беларускую акадэмію мастацтваў на аддзяленне рэжысуры і тэлебачання. Да гэтага займалася на курсах пры навучальнай установе, іграла ў народным тэатры “Жывая планета”.



Для працы Аліса шмат здымаецца ў фотастудыях.

Мара пра паступленне здзейснілася. Але дзяўчына сутыкнулася з прыземленымі фінансавымі праблемамі. Кажа, жыццё ў горадзе дарагое, а ў бацькоў не было магчымасцяў дапамагаць дачцэ. Таму Аліса вырашыла перавесціся на завочнае аддзяленне і пайсці працаваць.

### Навучыцца рэжысуры можна толькі на жывой пляцоўцы

– Я прыняла рашэнне: хай буду недаядаць, але падпрацоўваць стану толькі па спецыяльнасці. Бо каму пасля буду патрэбная з дыпломам і без досведу? Нікому. Сістэма размеркавання пасля ВНУ вельмі недасканалая. А тым больш творчая прафесія. Нават лаўрэатаў прэмій дэкан нашага факультэта з цяжкасцю мог уладкаваць хоць куды-небудзь.

Да таго ж Аліса хутка зразумела, што навучыцца рэжысуры і акцёрскаму майстэрству можна толькі на жывой

# не страціла бацьку”

## і здымкі ўласнага фільма




Аліса Красінская з сябрамі і калегамі на здымках.




Аліса разам з юнымі акцёрамі здымае кліп “Стылягі”.




Асістэнт рэжысёра.

пляцоўцы. Але дзе яе знайсці? Дзе знайсці каманды прафесіяналаў на здымкі студэнцкіх работ? Сродкі, за якія будзеш здымаць?

Профі пагаджаліся, але за вялікія грошы. А іх у студэнткі, якая вучыцца на платным аддзяленні, хай сабе са зніжкай, не было.

– Пачала праўдамі-няпраўдамі прабівацца на здымачныя пляцоўкі. Адразу з масоўкай, потым стала дапамагаць рабочым, рэквізітарам, – кажа Аліса. – Потым асвоіла хлапушку і стала падмяняць асноўнага работніка, працаваць з хлапушкай у кароткаметражках і рэкламных роліках, дзе гэта было нескладана.

### Калі вам кажуць “патэлефануем”, не верце

Яшчэ Аліса друкавалася ў газетах і часопісах, пісала артыкулы, здымала рэпартажы на розныя тэмы. Кажа, гэта дадавала досведу, а часам, і грошай. Так дзяўчына стала “абрастаць” прафесіяналамі-знаёмымі, склала ўласную каманду для здымак сваіх праектаў. Цяпер яна здымаецца ў эпізодах, працуе асістэнтам рэжысёра ў прэстыжнай кінакампаніі і прымае замовы на здымкі кліпаў, на напісанне сцэнарыяў.

– Хай недзе мне адмаўлялі, я ўсё роўна вярталася. Людзей часам уражвала мая настырнасць. Калі вам кажуць “мы патэлефануем”, не верце. Не патэлефануюць. Ідзіце зноў, не бойцеся здавацца надакучлівымі. Бо вам жа трэба, каб выбралі менавіта вас. Канкурэнцыя ў індустрыі кіно вялікая, – дзеліцца досведам Аліса.

### На здымках патрэбная ўвага і моцныя нервы

На здымачнай пляцоўцы мая субяседніца як асістэнт рэжысёра працуе з хлапушкай, фіксуючы кадры і дублі фільма, сцэны, хронаметраж запісаў. Вядзе мантажныя лісты, вытворчыя справаздачы за змену. Важна нічога не ўпусціць. Гэта як гульня на ўважлівасць. Трэба заўважыць дэталі ў кадрах, асаблівасці плана, касцюма, умець узаемадзейнічаць з усім калектывам, выконваць любыя просьбы, быць пунктуальным і старанным, мець моцныя нервы.

– На здымках заўсёды складаны эмацыйны фон, – дзеліцца субяседніца. – Шмат форс-мажораў. Тут няма звычайных выхадных. Усё адбываецца так, як вырашае прадзюсар. Дрэннае надвор’е, твае хваробы нікога не хвалююць. Гэта павінны разумець кожны, хто хоча звязаць лёс з кіно. Тут не санаторый, але кайф, якога хочацца ўсё больш і больш. Калі няма праекта, адчуваеш сябе нязвыкла.

Аліса працуе ў пары з сяброўкай – асістэнтам па акцёрах. Адказвае за іх прыбыццё, размяшчэнне, дапамагае на пляцоўцы. Мы дапаўняем адна адну – і гэта цудоўна, лічыць Аліса.

### Вось каб у сапраўдным жыцці адкруціць кадр назад

А што думае дзяўчына пра свой акцёрскі досвед? Яна перакананая: здымацца ў кіно – гэта цудоўна! Можна з новым дублем адматаць жыццё назад. Вось бы так у сапраўднасці, уяўляе яна. У кіно можна пражыць шмат жыццяў у адным.

Тэкст для ролі заўсёды вучыўся лёгка: добрая памяць у Алісы з дзяцінства. Словы паўтарала перад сном. Дзяўчына перакананая: нават самую маленькую ролю трэба пражыць у кіно, як галоўную.

– Касцюмерам са мной лёгка, – кажа Аліса. – Я сама падбіраю касцюм да вобраза. Больш за тое, за гады працы ў мяне сабралася ўласная касцюмерная. Дзялюся рэквізітам з тэатрамі і кінапраектамі. Прадметы інтэр’ера і гардэроба збірала дзе заўгодна. Кожная рэч ляжыць у мяне дома на паліцы пранумараваная і чакае каманды “матор”.

### Ад дэпрэсіі ратавала творчасць

Калі студэнтам трэба было выбіраць тэму для навучальнага фільма, Аліса свядома выбрала самую набалелую – аб праблемах у сям’і.

– Справа ў тым, што я перажыла распад уласнай сям’і, калі мне было 15 гадоў, – кажа дзяўчына. – Тата з мамай развяліся. Мама з’ехала назаўсёды. Пасля памерлі бабуля і дзядуля. Мы з татам засталіся адны. Бацька шмат працаваў, каб зарабіць грошай, не мог удзяляць мне патрэбнай увагі. Са школы ніякай дапамогі не было. І вось тады сям’ёй настойліва зацікавіліся органы апекі.

Аліса прыгадвае, што ў той складаны час неакуратна апраналася, у школе ўвесь час была падаўленай. Па яе словах, не разбіраючыся ў прычынах, сацыяльныя службы хацелі пазбавіць тату бацькоўскіх правоў. Але ўсё склалася добра. Ад дэпрэсіі дзяўчынку ратавала творчасць.

У аснове фільма “Калі ў доме гасне святло” – не ўласная гісторыя Алісы, а сюжэт пра яе знаёмых – сям’ю, якая змагаецца з п’янствам бацькі-дыскваліфікаванага спартсмена. Фільм дапамагалі здымаць сябры-калегі, для якіх тэма праблем у сям’і і ювенальнай юстыцыі таксама аказалася не чужой.

Трагічная гісторыя ўласнай сям’і – сёння для Алісы далёкі ўспамін, а магчыма, сюжэт для наступных фільмаў. Цяпер Аліса задаволеная жыццём і працай у сталіцы. А Гальшаны лічыць другім домам і месцам, якое некалі натхніла яе на творчасць.

**Фотаздымкі забяспечаныя Алісай КРАСІНСКАЙ.**



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## "Чысць" вырвала ачко ў дададзены час

**СМАРГОНЬ, МАЛАДЗЕЧНА**

Футбольны клуб "Чысць" 2 чэрвеня адправіўся ў Наваполацк, дзе ў дзявятым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе гуляў з мясцовым "Нафтанам". Госці адкрылі лік – гол на 33-й хвіліне забіў **Аляксей Бялевіч**.

Гаспадары ў пачатку другога тайма адыграліся і выйшлі наперад. І толькі на другой дададзенай хвіліне **Алег Чэпа** зраўняў лік – 2:2.

"Смаргонь" таксама згуляла ў гасцях унічыю 2:2. Сапернікам стала пінская "Хваля". Прытым, смаргонцы вялі 2:0 – галявымі ўдарамі адзначыліся **Павел Дзямідчык** і **Фёдар Сапон**. Але ў сярэдзіне другога тайма прапусціла два галы за тры хвіліны.

"Смаргонь" займае сёмае месца, "Чысць" перабралася на 13-е. Аляксей Бялевіч з ФК "Чысць" – на другім месцы сярод бамбардзіраў чэмпіянату. Ён забіў пяць галоў.

## "Маладзечна" згуляла ўнічыю

**АШМЯНЫ, МАЛАДЗЕЧНА**

Другое ачко ў чэмпіянаце Беларусі па футболе ў другой лізе набрала "Маладзечна-ДЮСШ-4". Маладзечанцы 2 чэрвеня ў гасцях гулялі з "Вікторыяй" з Мар'інай Горкі. Першы тайм скончыўся нулявой нічыёй. У пачатку другога маладзечанцы выйшлі наперад – пенальці ўдала выканаў **Сяргей Крот**. За пяць хвілін да канца гаспадары адыграліся. Выніковы лік – 1:1.

"Ашмяны-БДУФК" працягваюць перамагаць. Каманда сустракалася ў гасцях з "Івацэвічамі" і выйграла 3:1.

"Ашмяны-БДУФК" ідуць чацвертымі, маладзечанцы – 14-мі.

Наступная гульня "Маладзечна" пройдзе 9 чэрвеня. На гарадскім стадыёне прымуць ФК "Граніт". Пачатак сустрэчы а 18 гадзіне. Уваход свабодны.

## Адзіны гол прынёс "Віліі" перамогу

**ВІЛЕЙКА**

ФК "Вілія" ў другім туры чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 3 чэрвеня дома прымаў каманду са Старых Дарог.

Віляйчане выйгралі 1:0. Гол на 49-й хвіліне забіў **Міхаіл Цырук**.

Пасля двух тураў "Вілія" займае шостае месца з трыма ачкамі. Наступны матч каманда згуляе 10 чэрвеня ў гасцях супраць "Коласа" з Чэрвеня.

**Аддзел інфармацыі.**

# Чэмпіёнка Еўропы Аляксандра Ярмоліна: "Як добра, што летась не прайшла ва ўніверсітэт"

**МАЛАДЗЕЧНА**

**17-гадовая Аляксандра Ярмоліна з Чысці прывезла ў канцы мая перамогу з чэмпіянату Еўропы па ўшу. Чым цяпер жыве чэмпіёнка, якая ніколі не прайгравала, пра што марыць і якія атрымае прывілеі, дзяўчына расказала для чытачоў "РГ".**



Аляксандра Ярмоліна пакуль не вырашыла, ці вернецца ў спорт.

### Летась не паступіла ў ВНУ, і вельмі гэтаму рада

– Вярнулася з чэмпіянату вельмі шчаслівая, я пра гэта марыла. У мінулым годзе не паступіла ва ўніверсітэт, мела свабодны год. Паставіла мэту правесці яго з карысцю, і чэмпіянат Еўропы пацвердзіў чаканні.

Летась паступала ў Лінгвістычны ўніверсітэт на англійскую мову. Так атрымалася, што цэнтралізаванае тэставанне па мовах здала добра, а гісторыю Беларусі заваліла. Сертыфікаты ЦТ па мовах будуць актуальныя і ў гэту кампанію, а каб падцягнуць гісторыю, цэлы год хадзіла да рэпетытара. Спадзяюся сёлета прайсці.

Як толькі стала вядома, што не прайшла, адразу расстроілася. Але пасля размовы з мамай вырашыла, што ўсё ў парадку. Мама якраз нарадзіла брата Ваню, я дапамагала, хадзіла на трэніроўкі, пайшла ў аўташколу. Так хачу з першага разу на правы здаць! Год праляцеў вельмі хутка. Высыпалася. Разумею: аказваецца, як добра, што летась не прайшла.

**– Што дае статус чэмпіёнкі Еўропы?**

– Ведаю пра адзін прывілей. Калі паступлю, мне павінны адразу даць інтэрнат. Звычайна на першым курсе студэнты ездзяць ці наймаюць жыллё, ну, а я змагу адразу засяліцца ў інтэрнат.

Я магла атрымаць кандыдата ў майстры спорту ці майстра спорту, але для гэтага ў маёй вазе на спаборніцтвах павінна было быць чалавек пяцьдзясят. Майго фармату дзяўчат мала, дзве-тры. Звычайна тыя, хто важыць 65 кілаграмаў, ужо пасля 18.

Самае важнае ў перамозе – рада мама, блізкія, ды і я сама.

**– Чаму абралі менавіта ўшу?**

– Усё адбылося спантанна ў другім класе. У нас у Чысці не вельмі вялікі выбар. А я была актыўная, з хлопчыкамі білася. Хтосьці сказаў, што адкрываецца секцыя. У першы дзень пастаяла пад дзвярыма – ніхто не прыйшоў. На наступны ўжо былі людзі.

Для мяне гэта было хобі, пра выступленні нават і не думала. Калі вучылася ў другую змену, то на два-тры гады ўвогуле закінула. У восьмым-дзявятым вярнулася, з таго часу займалася рэгулярна. У дзясятым выступала ўпершыню. Падумала "Нешта я так доўга займаюся, а так і не выступіла ні разу". Кажу пра гэта трэнеру. Ён адказвае: "Ну, ты ж сама казала, што ходзіш як на хобі, я цябе і не чапаў".

У 11-м не выступала, таму што сур'ёзна рыхтавалася да паступлення, нервы. А ў свабодны год яшчэ і ў басейн хадзіла, на стадыён пабегаць.

Бацькі са спортам не звязаныя ніяк. Мама, Юля, працуе ў лагістычных цэнтры. Тата, Сяргей, паляўнічы, накачаны такі, актыўны. Па-аматарску займаецца.

Ушу выдатна гартуе характар. Ясна, што ў любым спорце хваляешся перад выступленнем. І тут – выйсці, калі на цябе ўсе глядзяць, пабіцца – гэта загартоўвае дух. Адчуваеш сябе ўпэўнена, калі займаешся такім відам спорту. Дысцыпліна ідзе і ў іншыя галіны жыцця. Не хочаш вучыцца – трэба, устаеш і ідзеш.

### Як адбываюцца трэніроўкі

Спачатку праходзіць разминка. Бегаем па крузе, разміnаем рукі, ногі, шыю, плечы. Затым расцяжка – ногі за галаву, яшчэ што-небудзь. Пасля бываюць розныя практыкаванні. Напрыклад, перакідваем цяжкі мяч з пяском – седзячы, стоячы, па-рознаму. Працуем з гантэлямі перад люстэркам, каб бачыць тэхніку і падкачваць рукі. І толькі ў канцы раўндаў дзесьці баёў – на мяшках ці ў пары.

Па колах скачам, на скакалцы – і сілавая нагрузка, і кардыё, усё адначасова. Скачам з гантэлькамі, а гантэлі – ужо сілавая нагрузка.

### Ці бывала, што трэнера ажно ненавідзелі

Ну, як сказаць. Ён нашы скаргі не слухае, смяецца, кажа: "Робім".

**Сяргей Міхайлавіч Панцюхоў** вельмі добры трэнер. Ён заўсёды на пазітыве. Калі доўга з ім працуеш, разумееш, што нешта не так, але ён ніяк не адбівае гэта на нас. І як чалавек выдатны, і, безумоўна, як трэнер.

У групе пераважна займаюцца хлопцы. Ёсць некалькі дзяўчат, але яны маладзейшыя на год, на два. Многія ходзяць свабодна. Тыя, хто рэгулярна наведвае, з імі Сяргей Міхайлавіч працуе больш канкрэтна.

Маёй перамозе вельмі абрадаваўся. Сам казаў, што ў прызы па-любому траплю. Пра першае месца яму сказала мая мама. Расказвае, ён аж засвяціўся. Дадаў, што ні на кроплю не сумняваўся.

### Змагалася з турчанкай

На чэмпіянаце Беларусі былі тры чалавекі ў вазе. Змагаешся за трэцяе, за другое, а пасля за першае месца. Я перамагла дзвюх дзяўчат, атрымала першае. Адбор прайшла – еду на Еўропу. А там у групе была толькі адна турчанка. Бачыла яе выступленні, ясна стала, што прыйдзецца пастарацца. Першы раўнд прайграла – два суддзі прагаласавалі за мяне, тры – за яе.

Стала ясна, што ў наступных двух раўндах давядзецца пастарацца. А сілы ўжо сыходзяць. Сабралася, вырашыла, што трэба перамагчы, настроілася. Калі б былі яшчэ саперніцы, то я і іх перамагла б.

Турчанак на сёлетніх спаборніцтвы прыехала вельмі шмат. Былі апранутыя ў нацыянальныя касцюмы – закрытыя рукі, ногі. І выступалі гэтак жа – штаны, доўгі гольфік, хустка на галаве, зверху шлем.

### Што далей са спортам

Цяпер, калі дасягнула такога выніку, вырашыла зрабіць паўзу. Было столькі нерваў, і на трэніроўкі не хацела ісці, усё гэта так круціла. Перамагла, выдыхнула. Буду адпачываць. Калі саспею, можа пачну хадзіць на стадыён.

Паступлю – трэба будзе адаптавацца, а пасля, можа, моцна захачу і вярнуся ў спорт. Канешне, столькі часу аддаць ушу – шкада кідаць. У гэтым месяцы мне будзе 18, і далей давядзецца выступаць па-даросламу. Да гэтага рыхтавацца трэба вельмі сур'ёзна. А трэба мне гэта ці не, пакуль не вырашыла. Гэта ж і траўмы, і сінякі.

### Пра траўмы

Траўмы на трэніроўках былі. Скакала на скакалцы, падвярнула нагу. Якраз быў канец мая, моцна не хацела ў школу. Так і ўсе кантрольныя прапусціла. Аднойчы практыкавалі барацьбу з хлопцам, які на 15 кілаграмаў мае большую вагу. Я пачынаю падаць, і ён мне на нагу ўпаў. Калена хруснула. Я нават не плакала, ні гуку. У такія моманты трэба, каб ніхто нічога не казаў. Устала, дазаймалася, пайшла дамоў – і ўжо ў слязах, так балюча было.

А са спаборніцтваў звычайна прыязджаеш з фінгаламі. Прыехала з Еўропы – усе ногі ў сіняках, але сышлі хутка.

Пройгрышаў на спаборніцтвах не было ні разу. Выступала рэдка, разоў 10-12, і заўсёды першае месца.

### Як выбраць свой від спорту

Па некаторых відаць, што гэта зусім не іх. Яны заціснутыя, і атрымліваецца ўсё неяк крывавата. Разумееш, што гэта дакладна не іх. Збоку такое заўважыць можна, а як самому вызначыць? Нават калі адны пройгрышы, усё роўна трэба імкнуцца да перамогі.

Хаця я і перамагаю, але ж загадзя не ведаеш, якім будзе вынік. І калі ехала на Еўропу, не баялася прайграць, баялася траўму атрымаць. Даведалася, што толькі адна саперніца, унутры крыху расслабілася – другое месца ўжо ў кішэні. Але калі выйшла, жаданне перамагаць уключылася само.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**
**Фота аўтара.**



# Крыжаванка ад “Рэгіянальнай газеты”



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**

2. Строй салдат, войск.
3. Зімовая вопратка з вырабленых шкур пушнога звера.
5. Дошчачка, пласцінка з выразам для вялікага пальца, на якой мастак расцірае і змешвае фарбы.
6. Ніжняя частка цаглянага ці каменнага будынка.
8. Менавіта яна стала прычынай таго, што труны пачалі закопваць на глыбіню не менш за два метры.
11. Тое, што дадаецца ў страву для паляпшэння яе смаку, паху.
14. Сталіца Сейшэльскіх астравоў.
15. Роспіс сцен вадзянымі фарбамі, нанесенымі на свежаатынкаваную сцяну.
18. Не чорны і не белы.
20. У казках і народных паданнях — пачвара ў вобразе змея, дракона.
22. Не зняць яго пры размове з жанчынай – значыць, праявіць грубасць і непавагу.
25. У італьянцаў гэта “слімак”, у датчан і нарвежцаў – “слон”, амерыканцы называюць “кошкай”, у Чэхіі – “селядзец пад марынадам”, у Польшчы, Балгарыі і Германіі – “малпа”, у Японіі – “вір”. А як называюць беларусы?
26. Водная прастора паміж мацерыкамі.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**

1. Салодкі кандытарскі выраб у выглядзе шарыка, плітачкі і пад.
3. Царкоўнае прастольнае свята (часцей каталіцкае).
4. Дакладнае вызначэнне агульнага палажэння, закона, якое мае дастасаванне да ўсіх прыватных выпадкаў.
7. Загад не шумець, замаўчаць.
9. Рака, якая ўпадае ў большую раку.
10. Перад тым, як прадстаўнік гэтай прафесіі надзене спецыяльную маску для работы, ён павінны ў яе плюнуць.
12. У старажытнай Эладзе спорт супрацьпастаўлялі ёй, таму і вырашылі дыстанцыі бегу ладзіць супраць руху цені ў сонечным гадзінніку.
13. Інтанацыйна аформленае спалучэнне слоў, якое выказвае думку; сказ.
16. Ён забараняе забіваць, таму карэнныя жыхары Бірмы гадуюць свіней, прадаюць іх кітайцам, а пасля купляюць у іх свініну.
17. Муж, якога прынялі ў сям'ю жонкі, які жыве ў доме жонкі.
18. Найвышэйшы, свінцовы ці горны штат ЗША, які яшчэ называюць штатам пашы бізонаў.
19. Дзякуючы гэтаму востраву з’явіўся выраз “Расія – радзіма сланоў”.
21. Дробныя частачкі матэрыялу, якія ўтвараюцца пры апрацоўцы яго пілой або напільнікам.
23. Іншасказальнае апавяданне з павучальнай высновай.
24. Какецтва, лёгкае заляцанне.
26. Плод, падобны на яблык і грушу, цвёрды, даўкі на смак.
27. Сіла, якая дзейнічае на адзінку плошчы перпендыкулярна да паверхні цела.

## Адказы на крыжаванку з №22

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Жывот. 3. Журы. 4. Стаж. 5. Круг. 6. Галоп. 7. Піліпка. 9. Камісар. 10. Жэст. 11. Статут. 12. Кабан. 13. Спрыт. 17. Кабінет. 19. Голад. 20. Калітка. 21. Камедыя. 23. Газель.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 1. Жвір. 2. Струна. 4. Справа. 5. Куліса. 8. Спякота. 10. Жыхар. 13. Сабака. 14. Грынвіч. 15. Стог. 16. Рабат. 17. Кавалак. 18. Габарыт. 22. Кудзеля. 23. Графа.

## Мінскі абласны драматычны тэатр. Рэпертуар на чэрвень



**У ДНІ ЛЕТНІХ КАНІКУЛАЎ**

“**Вучань калдуна, ці Бітва чарадзеяў**” 6+ (казка), *Сяргей Бялоў*
12 чэрвеня – у 10:30

“**Парася, якое спявае**” 3+ (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
14 чэрвеня – у 10:30

“**Кошкі-мышкі**” 3+ (казка-гульня па матывах п’есы А.Хайта “Дзень нараджэння Ката Леапольда”, *Аркадзь Хайт*
15 чэрвеня – у 10:30
19 чэрвеня – у 10:30

“**Казка пра чырвоную стужачку**” 6+ (вясёлая прыгода для дзяцей і дарослых), Галіна Латышава, Алег Чэчанеў
20 чэрвеня – у 10:30

**ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ**

**У РАМКАХ НАЦЫЯНАЛЬНАГА ФЕСТЫВАЛЮ ПЕСНІ І ПАЭЗІІ “МАЛАДЗЕЧНА-2018”**

**ПРЫСВЯЧАЕЦЦА ГОДУ МАЛОЙ РАДЗІМЫ**

“**Вечар**” 12+ (лірычная драма), А.Дудараў
8 чэрвеня – у 18:00

**У гонар Дня медыцынскіх работнікаў**

Прэм’ера. “**Дыягназ – каханне**” 16+ (камедыя ў 2-х дзеях), *Андрэй Максімаў*
19 чэрвеня – у 19:00

**У гонар Дня ўсенароднай памяці ахвяраў Вялікай Айчыннай вайны**

“**Памяць, за сабой пакліч...**” 12+ (музычна-драматычны спектакль)
22 чэрвеня – у 12:00

**Сумесны міжнародны музычны праект: Беларусь-Італія-Літва-Расія**
“**Вечар оперных арый**” 14+
24 чэрвеня – у 20:00

Тэатр мае права на замену спектакляў.

***Маладзечна, вул.Чкалава, 7.***
Кантактныя тэлефоны:
**52-30-66** – намеснік дырэктара,
**52-30-68** – галоўны адміністратар,
**52-30-65** – каса.
E-mail: modt@tut.by, www.theatre-modt.by



## ● ГАРАСКОП 8-14 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Усур’ёз займіцеся сабой, прывядзіце ў парадак свае нервы, для гэтага можа спатрэбіцца невялікі перапынак у рабоце або проста знізьце нагрузку на сябе. Для дасягнення гарманічнага стану вам давядзецца шмат што змяніць, і гэтыя змены закрануць усе сферы вашага жыцця.



**ЦЯЛЕЦ.** Для вырашэння жыццёвых праблем спадзявайцеся на сваю інтуіцыю і чароўнае азарэнне – адказ на многія пытанні прыйдзе звыш.



**БЛІЗНЯТЫ.** Калі вы будзеце пастаянна думаць толькі пра сябе і цягнуць усё на сябе, то гэта можа абярнуцца негатыўнымі наступствамі. Вы рызыкуеце застацца ля разбітага карыта.



**РАК.** Дні спрыяльныя для сям’і, планавання свайго будучага, а таксама для таго, каб проста наведаць сваякоў ці запрасіць да сябе гасцей.



**ЛЕЎ.** Вы будзеце поўныя ідэй і жадання іх ўвасобіць. Праяўленне з новай сілай вашых арганізатарскіх і лідарскіх здольнасцяў пойдзе на карысць любой справе. Плануйце на гэтыя дні вялікія здзяйсненні, і яны скончацца поспехам.



**ДЗЕВА.** Цяпер у вас ёсць усе шанцы абзавесціся ўплывовымі сябрамі і паспяховымі кампаньёнамі. Нават калі вы не ведзяце свой бізнес і ў вашым крузе няма алігархаў, знаёмствы дазволяць вам у далейшым палепшыць сваё фінансавае становішча і вырашыць мноства пытанняў.



**ШАЛІ.** Дні падыходзяць для адпачынку і весялосці. Таксама можа здзейсніцца тое, чаго вы так доўга чакалі і да чаго імкнуліся. Надыходзіць час пажынаць плады сваёй дзейнасці.



**СКАРПІЁН.** Вы пазнаёміцеся з новым чалавекам, з якім у вас завяжуцца вельмі моцныя пачуцці. Не залежна ад таго, ці ёсць у вас адносіны на дадзены момант ці не, вам захочацца новага запалу, новых эмоцый і новых знаёмстваў, якія лёс вам з радасцю паднясе. Верагодна, паўстане няпросты выбар.



**СТРАЛЕЦ.** Не варта дабівацца справядлівасці або адстойваць свае правы, часам трэба дазваляць падзеям ісці сваёй чаргой, не ўмешваючыся ў іх. І не перажывайце па дробязях, якімі б значнымі яны для вас ні здаваліся. Кожнай падзеі давайце дакладную і ўзважаную ацэнку, нічога не прымяншаючы і не пераболышваючы.



**КАЗЯРОГ.** Ад вас цяпер спатрэбіцца рашучасць і абдуманыя ўчынкі. Перад вамі стаіць выбар, ад нечага вам трэба будзе адмовіцца, дзеля дасягнення новага, або, наадварот, дзеля захавання старога, прыйдзецца адмовіцца ад перспектыў. Выбар за вамі.



**ВАДАЛЕЙ.** Прыслухоўвайцеся да любых парадаў і рэкамендацый, нават калі яны разыходзяцца з вашым меркаваннем. Усё гэта вам спатрэбіцца пасля, калі ад вас запатрабуюць актыўных дзеянняў, самастойнага прыняцця рашэнняў. У вас наперадзе новыя адкрыцці, перамены ў жыцці, але да чаго прывядзе гэты шлях, залежыць ад правільнасці вашых учынкаў і вашага жадання штосьці рабіць дзеля сябе.



**РЫБЫ.** Настаў час чакання, калі вам не трэба прадпрымаць якіх-небудзь канкрэтных дзеянняў, а трэба чакаць выніку ад зробленай раней працы і пажынаць плады, якія прадказваюць быць спрыяльнымі для вас.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## ● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 6 | | 8 | 9 | |
| 8 | 3 | | | | | 7 | | |
| | | | | 8 | 3 | 5 | 4 | |
| 6 | | 2 | | 3 | | | | |
| 5 | | 4 | | 1 | | 3 | | |
| | | | | | 2 | | 5 | |
| | | 6 | | | 1 | | | 7 |
| 1 | | | | 4 | | | 8 | 9 |
| | 4 | | | 9 | | | 1 | 5 |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 4 | 2 | 5 | 1 | 6 | 7 | 8 | 9 | 3 |
| 8 | 3 | 9 | 2 | 5 | 4 | 7 | 6 | 1 |
| 7 | 6 | 1 | 9 | 8 | 3 | 5 | 4 | 2 |
| 6 | 9 | 2 | 8 | 3 | 5 | 1 | 7 | 4 |
| 5 | 7 | 4 | 6 | 1 | 9 | 3 | 2 | 8 |
| 3 | 1 | 8 | 4 | 7 | 2 | 9 | 5 | 6 |
| 9 | 8 | 6 | 5 | 2 | 1 | 4 | 3 | 7 |
| 1 | 5 | 3 | 7 | 4 | 6 | 2 | 8 | 9 |
| 2 | 4 | 7 | 3 | 9 | 8 | 6 | 1 | 5 |

Рэгіянальная газета. Rh.by
тэлетыдзень
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017
НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 9 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **Мінск** | +13 / +23 | | +14 / +19 | | +11 / +19 | | +12 / +22 | |
| | 742 | → 4 | 742 | ↓ 4 | 743 | ← 1 | 741 | ↑ 3 |
| **Вільня** | +11 / +23 | | +13 / +19 | | +9 / +20 | | +11 / +22 | |
| | 748 | → 5 | 749 | ↓ 3 | 749 | ← 2 | 746 | ↑ 3 |

| Тэмпература паветра / Ціск (мм рт. сл.) | Воблачнасць ападкі / Хуткасць ветру м/с | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|

Усход 4.39
Захад 21.44
Даўжыня дня 17.05

Усход 2.57
Захад 15.47
Квадра 4

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +10 / +17 | 751 | ↖ 3 |
| Гродна | +13 / +24 | 751 | ↑ 4 |
| Мінск | +14 / +19 | 742 | ↓ 4 |
| Магілёў | +14 / +17 | 748 | ↑ 4 |
| Брэст | +12 / +25 | 748 | ↖ 2 |
| Гомель | +13 / +23 | 749 | ↑ 4 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература +2,8 °С у 1976 годзе
Максімальная тэмпература +31,1 °С у 1999 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 31,1 мм у 1964 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень

Як адгулялі выпускныя ў рэгіёне і колькі медалёў сёлета атрымалі выпускнікі, чытайце ў наступным нумары.



## Вазьмі з сабой у паход "Рэгіянальную газету"



**Падпісацца на 2-е паўгоддзе можна:**

✓ праз сайт "Белпошты".

Зарэгіструйцеся на сайце. Заходзім у акно інтэрнэт-плацяжоў, выбіраем "афармленне падпіскі на друкаваныя сродкі масавай інфармацыі", выбіраем "Алфавітны". Выбіраем тып падпіскі (індывідуальная ці ведамасная).

Ціснем літару "Р", справа гартаем старонкі, пазначаныя сінім колерам. Пад індэксам 632122 – "Рэгіянальная газета".

✓ на пошце,
✓ праз паштальёна
✓ праз плацежна-даведачны тэрмінал

Цана **індывідуальнай падпіскі** на месяц – 3 рублі 79 капеек.

Цана **ведамаснай падпіскі** на месяц – 11 рублёў 22 капейкі.

Вы можаце скарыстацца **скідкай за дастаўку**, калі самі будзеце забіраць газету або ў абаненцкай скрыні, або атрымліваць да запатрабавання.

*ПАДПІСНЫ ІНДЭКС: 63212 (індывідуальная), 632122 (ведамасная падпіска).*

## 30 чэрвеня ў Вілейцы правядуць фестываль моладзевых субкультур

**ВІЛЕЙКА**

Фестываль моладзевых субкультур "Энергія маладосці" праводзяць у Вілейцы ў трэці раз.

Ужо вядома, што ў мерапрыемствах фестывалю паўдзельнічаюць рокеры. Правядуць дыскатэку, фаер-шоу і догшоу.

Сёлета ў рамках фестывалю зладзяць юбілейны фестываль-конкурс малады эстрадных выканаўцаў "Адна зямля". Па словах арганізатараў, гэта робяць для таго, каб сабраць на выступленне канкурсантаў больш гледачоў.

Будзе працаваць гандаль, інтэрактыўныя пляцоўкі.

## З пільшчыкам змагаюцца з неба

**МЯДЗЕЛ**

У Нацыянальным парку "Нарачанскі" вядуць авіяцыйную апрацоўку хвойнікаў у ачагу масавага размнажэння шкодніка лясных экасістэм – рыжага сасновага пільшчыка.

Для гэтага задзейнічаюць самалёт і верталёт з усталяваным абсталяваннем для распылення біяпрэпаратаў. Выкарыстоўваюць біяпрэпарат "Лепідацыд".

Спецыялісты "Беллесаховы" па выніках дзвюх сесій маніторынгавых работ вызначылі частку ачага, найбольш схільную да пашкоджання шкоднікам, дзе патрабуецца правядзенне знішчальных мер.

**Аддзел інфармацыі.**

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Парадокс. Чаму ніткі, якой злучаныя шкарпэткі, звычайна больш трывалая, чым тыя, з якіх зробленыя шкарпэткі.

***

Бабуля пабілася з унукам, даказваючы яму, што чайнік – гэта посуд, мыш – гэта жывёла, а лайкі – сабакі.

***

Захварэў. Пайшоў у аптэку. Даведаўся кошт на лекі. Выйшаў з аптэкі здаровым чалавекам.

***

Раней я любіў лета. А пасля зразумеў, што лета можа быць у любы час, калі ёсць грошы. Цяпер я люблю грошы.

***

Зборы на вакзал з мамай:

– Цягнік у 15:00, але на ўсякі выпадак выйдзем у 10:00.

Зборы на вакзал з бацькам:

– Бяжы за цягнікам, а я запіхну чамаданы ў апошні вагон.

***

У мяне двое дзяцей. Што я хачу на дзень нараджэння? Прыняць ванну і схадзіць у прыбіральню. Адна! Хачу паесці гарачую ежу. Двюма рукамі! Хачу папіць чаю з цукеркай. Цэлай!

***

– Іра, не танцуй!
– Чаму?
– Не танцуй і ўсё.
– Ну, чаму? Песня ж класная!
– Трымай руль!

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ

## Якую прафесію вы лічыце самай творчай?



**Алена Маслікава, работнік банка, Маладзечна:**

– Журналіста. Так склалася, што я працую ў банку, але заўсёды марыла стаць журналістам.



**Анджэй Карпенка, памочнік машыніста, Маладзечна:**

– Летам – настаўнік, зімой – пчаляр.



**Марыя Шэбанец, сеткавы маркетынг, Маладзечна:**

– Месца для творчасці ёсць у любой прафесіі. Творчая прафесія тая, дзе працуе творчы чалавек.



**Вольга Жарская, фатограф, Маладзечна:**

– Самая творчая прафесія – гэта мама. Ну, і яшчэ акцёр, бо трэба пераўвасабляцца ў розныя ролі.



**Віталь Лучыновіч, студэнт, Вілейка:**

– Вэб-дызайнер. Дзякуючы сучасным тэхналогіям і праграмам чалавек здольны ажыццявіць любую сваю фантазію, якая толькі з'явіцца ў галаве.



**Алеся Маліноўская, работнік культуры, Ашмяны:**

– Крыэйтары, крэатыўшчыкі. Тут творчасць ужо ў самой назве.



**Дзмітры Буйневіч, токар, Маладзечна:**

– Настаўнікі, выхавальнікі дзіцячых садкоў. Вось дзе кожны дзень патрэбныя творчыя ідэі.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№23 (1206) 8.06.2018. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА "РоллПрынт", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №02330/484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 209. Падпісана ў друк у 9.00 7.06.2018.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.


Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.